


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



а. Канстанцін БАЙКО →3

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 15 (3074) Год LX | Беласток, 12 красавіка 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Найбольшы цуд хрысціянства

**Хочаш таго ці не хочаш, свядома ці падсвядома пачынаеш гаварыць малітву. Вусны самі складаюцца да малітвы. Нават не задумоўваючыся чаму. А па целе праходзяць дрыжыкі.**

**Стан такой дзіўнай духовай узбуджанасці ўтрымліваецца некалькі гадзін, а ў памяці застаецца нават на гады. Гэта самыя частыя ўражанні, якія спадарожнічаюць падчас наведвання Грабніцы (Труны) Гасподняй у храме Уваскрэсення Гасподняга ў Іерусаліме. Хаця само наведванне святога месца так турысту, як і паломніку трывае ўсяго адну хвіліну.**

Найсвяцейшае і найважнейшае месца для ўсіх хрысціян у свеце — царква Труны Гасподняй або інакш Уваскрэсення Гасподняга ў Іерусаліме.

Базіліка Труны Гасподняй знаходзіцца ў хрысціянскім раёне Старога Горада Іерусаліма, які сам падзяляецца на чатыры часткі: габрэйскую, мусульманскую, армянскую і, менавіта, хрысціянскую.

Базіліка Труны Гасподняй не з'яўляецца ўласнасцю толькі аднае Хрысціянскае царквы. Валодаюць ёю тры канфесіі: Грэчаскі праваслаўны патрыярхат Іерусаліма, Каталіцкую царкву прадстаўляюць браты францысканцы ды Армянская апостальская царква. Падчас галоўных святаў святую літургію служыць могуць таксама духоўны Сірыйскай, Эфіопскай і Копцкай усходніх цэркваў. І кожная канфесія мае свае вызначаныя месцы, якімі апякуецца. Сама Грабніца Гасподняя належыць да праваслаўных грэкаў, але ўвахода пільнуюць прадстаўнікі трох канфесій. А яшчэ больш сітуацыю ўскладняе і тое, што ключамі да базілікі ад стагоддзяў валодае сям'я палесцінцаў-мусульман. Нібыта, каб хрысціяне за гэта не спрачаліся.

Галоўная мэта ўсіх паломніцтваў у Святую Зямлю, але і звычайных турыстаў — пакланіцца і памаліцца менавіта пры Магіле Гасподняй. Галгофа — з габрэйскага, а Кальварыя — з латыні. Так як для мусульман рэлігійным абавязкам з'яўляецца паломніцтва ў Мекку хаця б раз у жыцці, так для хрысціян — паломніцтва ў Святую Зямлю, каб пакланіцца Грабніцы Гасподняй.

Амаль усе наведвальнікі пачынаюць свой шлях ад адной з сямі брам Старога Горада — ад Ільвінай брамы. Тут менавіта і пачынаецца Крыжовая Дарога — Via Dolorosa (дарога смутку), якой вялі Ісуса на Галгофу. І тут першы прыпынак — першая станцыя Крыжовай Дарогі. Ідучы з натоўпам пілігрымаў праз Стары Горад, мінаем дзевяць станцый, якія вядуць на Галгофу. Ля ўвахода, ужо каля сходаў у Храм Труны Гасподняй, знаходзіцца дзясятая станцыя, дзе паводле Евангелля Ісус быў абдзёрты з вопраткі. Тры наступныя станцыі Крыжовай Дарогі знаходзяцца ў самім храме непадалёк ад сябе. Яны ўвекавечваюць распяцце, смерць Ісуса ды знятце Хрыста з крыжа. Чатырнаццатая, апошняя, станцыя знаходзіцца знізу капліцы Магілы Гасподняй. І менавіта перад апошняй станцыяй трэба сваё адстаяць у чарзе — прыблізна дзве гадзіны ў несвяточны час. Нягледзячы на шматтысячныя натоўпы вернікаў, чарга ідзе ўперад даволі спраўна. Гэта хутчэй за ўсё дзякуючы грэчаскім манахам, якія сочаць за парадкам гэтага святога месца. Ля самога ўвахода ў Грабніцу стаіць двух манахаў, якія прапускаюць туды па некалькі асоб на раз. І кажуць па-англійску — „one minute". Так што маем своеасаблівую прапорцыю. Пару дзён паломніцтва па Святой Зямлі, некалькі гадзін Крыжовай Дарогі і адна хвіліна, каб пакланіцца і памаліцца ў Грабніцы Гасподняй. Аднак уражанне застаецца на ўсё жыццё.

Гэтак бывае ў звычайныя, будныя дні. Але ўжо на Пасху, асабліва праваслаўную, нечым свайго роду і невераґодным, але ўзнёслым і святым з'яўляецца зыход дабрадзейнага агню.

Цуд Святога Агню можна ўбачыць штогод у Вялікую суботу. Напярэдадні Вялікадня і на само свята ў Іерусалім прыбываюць сотні тысяч паломнікаў з усяго свету, найбольш, вядома, з Грэцыі, Кіпра, Сербіі і Расеі, але і з Польшчы, каб стаць удзельнікам сыходу цудадзейнага агню. Гэта выглядае большменш наступным чынам. Праваслаўны патрыярх Іерусаліма тройчы абыходзіць навокал капліцу Грабніцы Гасподняй, затым здымае літургічнае адзенне із двума пукамі (звязкамі) свечак, у кожным з іх па 33 штукі (столькі гадоў было Хрысту), уваходзіць найперш у капліцу Ангела (яна папярэджвае ўласцівую капліцу), а затым у капліцу Грабніцы Гасподняй. Перад гэтым на вачах вернікаў быццам бы адбываецца праверка ці не мае ён нечага, што магло б распаліць агонь. Пасля малітвы, часам карацейшай, часам даўжэйшай, самабытна паяўляецца агонь на пліце грабніцы, ад чаго запальваюцца абодва пукі свечак. Патрыярх выходзіць з капліцы да вернікаў з запаленымі свечкамі і абвяшчае радасную навіну пра Уваскрэсенне Хрыста. Грэчаскі патрыярх найперш перадае агонь армянскаму патрыярху, затым копцкаму.

Ад патрыяршых свечак свае свечкі запальваюць таксама вернікі прысутныя на гэтым цудзе. Паводле сведчанняў вернікаў, Святы Агонь праз нейкі час зусім не апарвае. Паломнікі могуць ім абмываць твар, рукі, не рызыкуючы апёкамі. Нездарма цуд Святога Агню называецца найвялікшым цудам хрысціянства, бо для веруючых, і не толькі веруючых, сведчыць аб прысутнасці Святога Духа ў гэтым месцы і ў гэты час.

**Храм Труны Гасподняй** пабудаваны на месцы, дзе паводле легенды быў распяты і пахаваны Ісус Хрыстос. На пачатку I стагоддзя на гэтым месцы знаходзілася пакінутая каменяломня. Ці сапраўды там быў распяты Ісус — Евангелле гэта пацвярджае. Менавіта адзін з доказаў, што тамака збіраліся пасля Ягонай смерці апосталы на малітву, а Галгофа, як называлі месца ўкрыжавання Хрыста, знаходзілася па-за мурамі тадышняга Іерусаліма.

І толькі калі хрысціянства пачало пашырацца ў IV стагоддзі, каб увекавечыць Уваскрэсенне Хрыста, імператар Канстанцін загадаў пабудаваць там храм. Тадышняя базіліка была ўтрая большая за сучасную. Цяперашняя мае 120 м даўжыні і 60 м шырыні. Пратрывала тры стагоддзі. Была знішчана ў часе вайны з персамі. Затым адбудаваная. І так напераменна. Знішчаная пажарамі, землятрусамі і войнамі. І ўвесь час адбудоўваная вернікамі амаль па сённяшні дзень. Таму і ўвасабляе цяпер так звонку, як і знутры перамяшанне архітэктурных стыляў. З 1980 года Базіліка Труны Гасподняй, як і ўвесь Стары Горад Іерусаліма, занесены ў Спіс аб'ектаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Беларускае Радыё Рацыя**





# Слова тваё

Давялося мне нядаўна некалькі гадзін ехаць рэйсавым аўтобусам у кампаніі іншых пасажыраў. Сярод іх былі і дзве манашкі, няважна якога ордэна і кляштара. Важна тое, што цягам гэтых трох-чатырох гадзін сёстры не замаўкалі ні на хвіліну. Я, канешне, разумею, што гэтыя Хрыстовыя нявесты не давалі зароку суцэльнага маўчання, але каб такое слоўнае нетрыманне... Міжволі іхнюю гучную гутарку былі змушаны цэлы гэты час слухаць усе іншыя. Нават не буду тут унікаць у змест той чужой, хоць фактычна публічнай, шматслоўнай размовы. Гэта была б куды больш сумная тэма. Але вось што падумалася мне. Адным з самых вялікіх грахоў чалавека з'яўляецца нястрыманасць у словах. А слова, як вядома — як птушка: вылеціць і назад не зловіш. Як той казаў, сліны не падымеш, а слова не вернеш.

Колькі разоў нам даводзілася шкадаваць пра сказанае. Прынамсі ў сто разоў больш, чым пра непрамоўленае. У час Вялікага посту адны адмаўляюцца ад забаваў, іншыя — ад алкаголю, трэція — ад ежы, галадаюць і амаль падаюць з-за гэтага ў непрытомнасць. Напэўна, такія абмежаванні ў гульбе, пітве і ядзе слушныя, маюць пад сабой і даўнюю традыцыю і рацыю. Але нястрыманасць у словах, на маю думку, гэта куды большы грэх. Нашы неасцярожныя, неабачлівыя словы крыўдзяць блізкіх, выклікаюць негатыўныя наступствы і зваротную адмоўную рэакцыю. Нашы паспешлівыя катэгарычныя ацэнкі іншых і радыкальныя высновы пра нейкія падзеі часта бываюць памылковымі, альбо павярхоўнымі і зусім недарэчнымі. Даводзіцца шкадаваць пра сказанае, перажываць, мучыцца з-за таго, што ляпнуў лішняе і непатрэбнае. Часам выправіць сказанае досыць цяжка і нават немагчыма. І тут зноў прыгадваецца народны жарт-мудрасць: „Рот трэба адкрываць толькі ў адным выпадку — на прыёме ў лекара-стаматолага".

А колькі разоў розным людзям мы неабачліва абяцаем нешта зрабіць, абладзіць, аформіць. І не робім зусім, альбо не робім у час, адкладаем на потым, забываемся, заблытваемся ў сваіх абяцаннях і „хвастах". І самае галоўнае, ніхто ж нас за язык не цягнуў, увязваемся ў непатрэбнае, не ацэньваем цвяроза сваіх рэальных мажлівасцей і сіл. А потым зноў згрызоты сумлення, няёмкасць, непатрэбная нервовасць, паспешлівасць. Такая ўжо прырода чалавека — нагаварыць лішняга, а пасля мучыцца.

Наша прафесія журналіста ў гэтым сэнсе асаблівая, бо слова і лечыць, і калечыць. Колькі зла і нянавісці пасеялі за апошнія гады журналісты, якія, захлынаючыся слінай, жарсна і апантана прапагандуюць дзяржаўную палітыку „саюзнoго государства"! Днямі ўключыў нейкае ток-шоў на расейскай тэлевізіі, канал не важны, нават тэма эфіру не важная, важная сутнасць. Хоць я, чалавек у пэўным сэнсе з загартаванай псіхікай, але не вытрываў больш дваццаці хвілін гэтай перадачы. Нянавісць там была ў кожным слове, у вуснах кожнага з прамоўцаў, адчувалася фізічна, літаральна скурай. А тэлевізару ў наш час людзі вераць больш, чым Бібліі. Тэлевізар атруціў і ачмурыў мазгі дзясяткам тысяч людзей, запоўніў духоўную пустэчу варажнечай і злосцю. Але што там журналісты ці псеўдажурналісты! Нават з вуснаў асоб духоўнага звання часам можна пачуць такое, што хочацца абкласці вушы падушкамі, каб толькі не чуць нічога. Ужо калі іерарх царквы пагражае ўяўным „ворагам" ядзернай зброяй і радыеактыўным попелам, то куды коціцца гэты заганны свет?! Таму вельмі важна, на чыім баку мы будзем, што пасеем сваімі словамі і ўчынкамі?

І застаецца прыгадаць толькі Эклезіяста: „Не будзь на язык надта борзды, і сэрца тваё хай не будзе спяшацца сказаць перад Богам слова, таму што Бог на небе, а ты на зямлі. Таму слова тваё хай ашчаднае будзе".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Пралом ці медыяльная сечка?

Беларускую частку Белавежскай пушчы замежнікі будуць наведваць без візаў. Яны змогуць знаходзіцца ў нацыянальным парку без іх на працягу трох дзён. Гэта прадугледжана ўказам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 115 ад 9 сакавіка. Як паведаміла агенцтва БЕЛТА, дакумент прыняты з мэтай развіцця трансгранічнага турызму, а таксама для павышэння эфектыўнасці выкарыстання ў Белавежскай пушчы аб'ектаў турыстычнай інфраструктуры. Патрапіць у нацыянальны парк замежнікі змогуць праз пункт пропуску Пераро́ў — Белавежа. Для гэтага яны мусяць мець адпаведны дакумент. Які? А вось гэта пакуль невядома. Ён мусіць быць на працягу трох месяцаў распрацаваны і зацверджаны беларускім урадам.

Падабаецца мне такі падыход. Адтрубілі на ўвесь свет пра пэўнае рашэнне, а як яго рэалізаваць — паняцця не маем. Будзем разлічваць на само жыццё. Скажы якому немцу ці англічаніну, што так можна рабіць, далібог не паверыць.

Ад часу, калі прагучала гэтая навіна, спакою не давала мне пытанне: чаму якраз улады Беларусі рашылі зрабіць дзіру ў непраходнай мяжы якраз у Белавежскай пушчы ды толькі там? Больш зразумелым крокам быў бы ўвод малога памежнага руху. Тут і працэдуры падрыхтаваныя, і насельніцтва паабапал мяжы гэтага чакае. Але не, не будзем карыстацца праверанымі сродкамі. Замест таго прыдумаем наш уласны ровар, непадобны на ніякі іншы.

Для чаго? Калі не вядома, у чым рэч, то пераважна рэч у грашах. І гэта недвухсэнсоўна пацвердзіў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Аляксандр Берабеня ў размове з Польскім радыё Беласток. Сказаў ён, што беларуская дыпламатычная службыназіраюць паток турыстаў у Белавежы на польскім баку мяжы. Хацелася б, каб і Беларусі прынеслі яны прыбытак, але тут гальт — шлагбаўм, заараная паласа і калючы дрот. Былі, праўда, робленыя спробы ўвесці спрошчаны рух, адчыніўся пераход для пешаходаў і равapыстаў, але нічога гэта не дало. «Частка турыстаў прыязджае ў Белавежу нават без пашпартоў, — казаў консул, — вось пра іх мы і падумалі».

Ну так, я ўжо бачу, як тысячы турыстаў без пашпартоў кінуцца на ўсход. Як распаўзуцца па лясных сцяжынках беларускай часткі Белавежскай пушчы, хто за ягадамі, хто за грыбамі, а хто падглядаючы дзятла. Усе сцяжынкі, на канец, зыдуцца ля сядзібы Дзеда Мароза, які — у кароткіх штоніках — прывітае гасцей гучным басам «о-го-го-го!», пачастуе пушчанскай самагонкай і адбіўной з дзіка ды на канец будзе лічыць тыя долары, еўра, швейцарскія франкі ці хоць польскія залатоўкі. І ўсе будуць рады. Замежныя госці, бо пабывалі ў экзатычнай краіне, і беларускія ўлады, бо прыдбалі дадатковую капейку ў дзяржаўную казну, а пры тым усім, нічога не памянялі, нічым не паступіліся. І гэта, бадай галоўнае, што назіраецца ў такіх дзеяннях. Хочацца нешта зрабіць, але каб усё заставалася па-старому. А так не бывае.

Не ўдасца ніякім указам развінуць турызму. Бо што з таго, што мы напішам: хочам прыняць 8 мільёнаў замежнікаў? А тыя замежнікі возьмуць і не прачытаюць. І што ім зробіш? Усе нашыя ўказы з дэкрэтамі могуць паслужыць толькі як падпалка пад касцёр ля сядзібы таго ж Дзеда Мароза або на беразе Аўгустоўскага канала, які таксама чамусьці да гэтай пары не стаў аазісам замежных турыстаў.

Трэба спачатку памяняць эканамічныя стасункі ў краіне. Але хто такое зробіць? Гэта ж ужо палітыка! А палітыкай мы не займаемся — гэтая дзялянка зарэзерваваная ў Беларусі самі ведаеце для каго. Таму замест аднаго простага палітычнага рашэння пра ўвод у жыццё малога памежнага руху ці наогул пра збліжэнне ў візавым пытанні з Еўрасаюзам, прыдумоўваецца рознае абы-што.

Да такой катэгорыі «абы-што» я запісваю медыяльны шум вакол магчымага бязвізавага трохдзённага бадзяння замежнікаў па Белавежскім нацыянальным парку. І дай Бог, каб я памыліўся. Каб сапраўды быў гэта першы істотны пралом у муры, які аддзяляе Беларусь ад Польшчы ды іншых еўрапейскіх краін.

**Мікола ВАЎРАНЮК**



Вачыма еўрапейца

# Насуперак дзяржаўнаму інтарэсу?

Пасля апошніх парламенцкіх выбараў у Беларусі ў 2012 годзе Місія назіральнікаў АБСЕ ацаніла: выбары не былі ні свабоднымі, ні бесстароннімі. Сцвердзіла: «Свабодныя выбары азначаюць, што людзі могуць свабодна выказваць свае погляды, арганізоўвацца і старацца за пасаду. Падчас гэтых выбараў гэтага не было. Многія вядомыя палітыкі, якія маглі б адыграваць важную ролю ў выбарах, заставаліся ў турме або не ўдалося ім зарэгістраваць сваю кандыдатуру з-за рашэння суда. ЕС, уключаючы Польшчу, не лічыць іх выбарамі». Гэта азначала, што былі перапыненыя якія-небудзь кантакты з беларускім парламентам на міжпарламенцкім узроўні, у тым ліку замарожаны ўзаемныя візіты.

Тым часам беларускі парламент нядаўна наведаў падляшскі дэпутат ад СЛД Яўген Чыквін, старшыня сеймавай групы па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь, якая была створана па яго ініцыятыве ў ліпені 2013 года, быццам у альтэрнатыву да ўжо існуючай групы па Беларусі пад старшынствам дзейнага старшыні парламенцкай камісіі замежных спраў, падляшскага дэпутата ад ГП Роберта Тышкевіча. Калі я пра гэта даведаўся, успомніў, што на сустрэчы ў пачатку снежня мінулага года, якую правялі дэпутаты альтэрнатыўнай групы па супрацоўніцтве з РБ з паслом Беларусі ў Варшаве Аляксандрам Авяр'янавым, ён тады пераконваў іх наступным чынам:

— Я прапаную аднавіць адносіны з нашым парламентам. ЕС, Еўрапейскі парламент могуць гаварыць што заўгодна ўвесь час, а мы павінны выкарыстоўваць той факт, што мы суседзі.

Падчас гэтай сустрэчы дэпутат Чыквін не трымаў у сакрэце, што хацеў бы скарыстаць аргумент прыгранічнага супрацоўніцтва для аднаўлення міжпарламенцкіх кантактаў. Першым крокам — як можна меркаваць — у здзяйсненні жадання амбасадара Авяр'янава быў якраз візіт дэпутата Чыквіна ў Мінск 9-12 сакавіка. Пасля вяртання ў інтэрв'ю для перадачы «Пад знакам Пагоні» ў Радыё Беласток ён сказаў:

— Я ездзіў у Мінск, каб сустрэцца з дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Я на працягу доўгага часу клапачуся, каб было супрацоўніцтва і ўсталяваліся кантакты паміж нашымі парламентамі. Я думаю, што асабліва ў нашых прыгранічных раёнах ад гэтага супрацоўніцтва можа быць нейкая канкрэтная карысць з пункту гледжання паляпшэння адносін паміж людзьмі, каб палегчыць перасяканне мяжы, можа адмяненне віз, можа з часам адкрыцця бязвізавых прыгранічных рэгіёнаў. Гэта быў візіт, падчас якога мы гаварылі пра канкрэты і я спадзяюся, што ясьчэ ў гэтым годзе будуць афіцыйныя сустрэчы: мы запросім іх сюды, і яны гатовыя запрасіць нас. Я прадставіў канкрэтныя прапановы чым мы маглі б заняцца, і яны свае. Маршалак Сейма мусіць цяпер даць на гэта дазвол.

Ці маршалак Сікорскі даў дазвол на візіт дэпутата? — распытваў яго радыёжурналіст Міхал Сцепанюк.

— Ну, так. Перад ад'ездам я гаварыў з маршалкам Сікорскім (...). Незалежна ад таго, як мы ацэньваем паасобныя дзяржавы, дыялог, размова, кантакты неабходныя, таму што толькі так мы можам вырашыць пытанні, на якім нам залежыць. Тое, што ўсе краіны будуць прыроўненыя да заходняй мадэлі дэмакратыі, з'яўляецца ўтопіяй. Я не прылічваю Беларусі да краін, дзе ёсць дыктатура, якая вельмі абмяжоўвае людзей. У індывідуальных справах людзі там вольныя. Мабыць, некаторыя публічныя правы абмежаваныя, але гэта ў нявялікім маштабе, і гэта будзе мяняцца.

Мне стала цікава, ці я не праігнараваў факт, што польскі Сейм змяніў сваю пазіцыю па непрызнанні легітымнасці беларускага парламента. Я паставіў дэпутату Чыквіну прамое пытанне: ці атрымаў ён афіцыйны дазвол на выезд у Мінск і перамовы па ўсталяванні кантактаў з беларускім парламентам. Нервова адказаў:

— Не мушу вам паведамляць пра дэталі маіх гутарак з маршалкам.

Я надалей яго распытваў і ён праз хвіліну дадаў:

— Калі ласка, пішыце: аб маім выездзе і маіх дзеяннях у справе ўсталявання кантактаў з беларускім парламентам ведаў маршалак Сейма.

Ведаў ці даў згоду на афіцыйнае прадстаўніцтва Сейма — гэта дзве розныя справы.

Канчатковы адказ я атрымаў з Канцылярыі Сейма: «Гэта была асабістая паездка дэпутата, Канцылярыя Сейма не была яе арганізатарам».

Такім чынам усё, здаецца, паказвае, што дэпутат Чыквін робіць сваю ўласную палітыку, выконваючы чаканні рэжыму ў Мінску і рызыкну заявіць: насуперак польскаму дзяржаўнаму інтарэсу. На жаль, пазіцыі старшыні парламенцкай камісіі па замежных справах я не змог атрымаць. Дэпутат Тышкевіч быў для мяне («Нівы») у гэтым выпадку недасягальным па прычыне выбарчай кампаніі Браніслава Камароўскага, якой ён кіруе.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# У гонар айца Канстанціна Байко

**У Агульнаадукацыйным ліцэі з навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім моладзь пад наглядам настаўніцы праваслаўнай рэлігіі Эвы Астапковіч 26 сакавіка наладзіла вечарыну, прысвечаную святару, настаўніку і лекару, мітрафорнаму протаіерэю Канстанціну Байко. Нарадзіўся ён, правёў дзяцінства і пахаваны ў Белавежы, але яго жыццё праходзіла, між іншым, у Бельску-Падляшскім, дзе працаваў у карысць беларускага школьніцтва. Вучыў ён праваслаўнай рэлігіі ў белліцэі і іншых школах горада, выконваў абавязкі настаяцеля Уваскрэсенскага прыхода. Удзельнікі вечарыны выявілі надзею, што айцец Канстанцін Байко, які пакорліва перанёс здзекі ў турмах і на ссылцы ў Савецкім Саюзе ды перацярпеў шматлікія жыццёвыя складанасці, у будучыні будзе ўключаны ў лік святых Праваслаўнай царквы.**

Дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк прывітаў гасцей, сярод якіх былі святары на чале з бельскім благачынным, мітрафорным протаіерэем Лявонціем Тафілюком, сямейнікі айца Канстанціна Байко, пасол Сейма Яўген Чыквін, бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, самаўрадаўцы, дырэктары бельскіх асветных і культурных установаў ды Караль Усакевіч з Інстытута нацыянальнай памяці, каардынатар VI выпуску праекта «Камяні памяці — з малітвай Айчыне 1939-1989 — школьны год 2014/2015», у рамках якога была арганізавана вечарына. Вялікі калідор на другім паверсе белліцэя запоўнілі моладзь, настаўнікі і большчане, якія прыйшлі ўшанаваць памяць айца Канстанціна Байко. Блаславенства на правядзенне вечарыны і ліст да яе ўдзельнікаў даслаў мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава.

— Сёння тут два героі, айцец Канстанцін Байко і наша моладзь, якая пад кіраўніцтвам настаўніцы Эвы Астапковіч падрыхтавала сённяшнюю вечарыну. Школа — жывы твор. Маладым людзям патрэбны героі, з якіх жыцця маглі б браць прыклад для сябе. Такім героем з'яўляецца айцец Канстанцін Байко. Яго жыццё было цікавым, але перш за ўсё трагічным, — сказаў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк адкрываючы сустрэчу пасля супольнай малітвы. Пасля мерапрыемства дырэктар дабавіў: — У Бельску айцец Канстанцін быў звязаны з беларускім школьніцтвам. Нам важнае таксама, што ён, апрача заступніцтва за праваслаўную веру, стаяў за беларускасць.

На першай вечарыне ў Бельскім белліцэі, прысвечанай айцу Канстанціну Байко, якая адбылася 17 снежня 2004 года, былі зачытаны даклады менавіта пра беларускае школьніцтва ў Бельску-Падляшскім. У выніку біяграфічныя матэрыялы пра айца Канстанціна надрукавалі перыядычныя выданні «Бельскі гостінець» і «Беларускі гістарычны зборнік». Другое спатканне ў гонар айца Канстанціна 26 сакавіка гэтага года ўдала павялі белліцэісты. Падрыхтавалі яны прэзентацыю аб жыцці і дзейнасці святара на аснове здымкаў, дакументаў і эпісталярнай спадчыны.

Канстанцін Байко нарадзіўся ў 1909 годзе ў Белавежы-Заставе, дзе правёў дзяцінства. Пабываў у бежанстве ў Разанскай губерні, пасля здабыў духоўную адукацыю ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Вільні і там наведваў лекцыі ў Медыцынскім інстытуце. Пасля здабыў званне магістра тэалогіі на Аддзяленні праваслаўнай тэалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Служыў айцец Канстанцін у розных прыходах у Польшчы. У чэрвені 1941 года хаваў перад немцамі яўрэяў і цыганоў. У жніўні 1944 года яго назначылі настаўнікам праваслаўнай рэлігіі ў новаарганізаваных школах у Бельску-Падляшскім. Тады айцец Канстанцін застаўся верным мітрапаліту Польскай праваслаўнай царквы Дыянісію, хаця царкоўныя ўлады ў Бельску падпарадкаваліся Расійскай праваслаўнай царкве. У сакавіку 1946 года затрымалі яго савецкія афіцэры і тайком вывезлі ў Савецкі Саюз.

У Мінску айца Канстанціна дапытвалі ў турме як савецкага грамадзяніна і асудзілі на 15 гадоў цяжкіх работ ды 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў.

— Арыштаванне айца Канстанціна бачыла адна з бельскіх вучаніц. Двух мужчын каля моста на рэчцы Белай упіхнулі яго ў машыну, шафёр якой быў у форме савецкага салдата, — сказалі белліцэісткі.

Айца Канстанціна Байко, высокаадукаванага святара, абвінавацілі ў тым, што крытычна ставіўся да камунізму. Яго вывезлі ў Варкуту на цяжкія работы.

— Айцец Канстанцін быў працаўнікам ваяўнічага камунізму, бязбожніцтва. Ён многа нацярпеўся ў турмах і ў ссылцы. У турме яго вешалі на крыжы і падпальвалі яму пяткі. Жыццё айца Канстанціна Байко было адным вялікім крыжам, — гаварылі белліцэісты ў час вечарыны.

Аднак у Варкуце заўважылі лекарскія веды айца Канстанціна, якія здабыў ён на лекцыях у Медыцынскім інстытуце ў Вільні, і дазволілі яму скончыць фельчарскія курсы. Айцец Канстанцін стаў лячыць вязняў і тады перасталі прымушаць яго да непасільнай працы. У кастрычніку 1956 года вярнуўся ён на Беласточчыну і ў лютым 1957года атрымаў місію выкладаць праваслаўную рэлігію ў шасці бельскіх школах. У 1961-1963 гадах выконваў ён абавязкі настаяцеля Уваскрэсенскага прыхода ў Бельску.

— Айцец Канстанцін навучаў праваслаўнай рэлігіі на беларускай мове і быў вельмі ангажаваны ў сваю працу. Ад яго эманавала любоў да вучняў і акружаючых яго людзей. Ён многа даваў ад сябе. Хаця быў патрабавальным настаўнікам, вучні яго любілі. Айцец Канстанцін умеў прывіць вучням любоў да Бога, праяўляў арганізацыйныя здольнасці і патрапіў заахвоціць моладзь хадзіць у царкву на малітвы, — расказвалі вучаніцы.

У 1963 годзе айцец Канстанцін выехаў у Вроцлаў, куды запрасіў яго епіскап Васілій, пазнейшы мітрапаліт, будаваць царкоўнае жыццё. У 1970 годзе святар пераехаў у Старгард-Шчэцінскі, дзе служыў да 1983 года. Быў там настаяцелем праваслаўнага прыхода і мясцовым благачынным. Атрымаў там званне мітрафорнага протаіерэя і права насіць мітру. У 1983 годзе святар пераехаў у Яблачынскі манастыр, адкуль сямейнікі забралі яго ў Бельск-Падляшскі. Айцец Канстанцін Байко памёр 12 кастрычніка 1984 года і пахаваны на могілках у роднай Белавежы.

— Айцу Канстанціну прыйшлося жыць у страшэнных часах. Я ведаў яго і спатыкаўся з ім, калі ён прыязджаў у Бельск або Гайнаўку. У апошнім перыядзе жыцця я спавядаў і прычашчаў айца Канстанціна. Даў яму Прычасце ў канцы яго жыцця і разам з іншымі святарамі і сямейнікамі былі мы на пахаванні ў Белавежы. Мы духоўна заўсёды добра ўспамінаем айца Канстанціна. Слухаючы пра яго жыццё, паўстае задума далучыць яго да ліку святых мучанікаў Праваслаўнай царквы, — гаварыў бельскі благачынны, мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк.

Айцец Лявонцій пахваліў белліцэістаў за вечарыну і адначасна пакрытыкаваў бельскую моладзь за малую ангажаванасць у царкоўнае жыццё. Заклікаў ён моладзь часцей прымаць удзел у багаслужбах, чаго патрабаваў ад сваіх вучняў айцец Канстанцін Байко. Падчас вечарыны экспанаваліся падраснік айца Канстанціна і ягоная Біблія. Асобе героя вечарыны былі прысвечаны дзве школьныя выставы.

— Айцец Канстанцін размаўляў у школе па-беларуску. Захаваліся ягоныя канспекты ўрокаў на беларускай мове, — патлумачыў сабраным на сустрэчы Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» і паказаў дакументы святара. — Выехаў айцец Канстанцін у свет з Белавежы і вярнуўся сюды на спачын. Спачатку дакументы, лісты айца Канстанціна знаходзіліся ў скансэне ў Белавежы, але Міхал Байко, суарганізатар скансэна, перадаў архіўныя матэрыялы ў Студзіводскі музей. Архіў айца Канстанціна будзе знаходзіцца ў нашым музеі да часу ўзнікнення ў Бельску музея памяці айца Канстанціна Байко. Тады мы перадамо такому музею ягоныя архіўныя матэрыялы.


Айцец Канстанцін Байко

Караль Усакевіч з Інстытута нацыянальнай памяці пахваліў бельскіх белліцэістаў за ангажаванасць і працу, якую яны выканалі пад апекай настаўніцы Эвы Астапковіч. Пасол Сейма Яўген Чыквін прывёў успаміны пра айца Канстанціна. Белліцэісты выступілі з прапановай назваць мост на рацэ Белай па вуліцы Стэфана Баторыя, каля якога святар быў арыштаваны савецкімі органамі, імем айца Канстанціна Байко. Ліцэісты запрапанавалі сабраным паставіць свой подпіс пад заявай да радных горада Бельска-Падляшскага ў гэтай справе.

— Я падпісаўся і буду пераконваць гарадскіх радных назваць мост імем айца Канстанціна Байко. Ён быў вялікім чалавекам нашай зямлі, дасканалым духоўным, настаўнікам і лекарам, узорам для нашай моладзі, якая, так як айцец Канстанцін, павінна разгортваць свае таленты, — сказаў бургамістр Яраслаў Бароўскі.

Протаіерэй Славамір Хвойка з Сямятыч з вялікай пашанай гаварыў пра жыццё і дзейнасць айца Канстанціна. Ён таксама мае надзею, што айцец Канстанцін Байко будзе ўключаны ў лік святых мучанікаў Праваслаўнай царквы. Вечарына закончылася выступленнем белліцэйскага калектыву "Вянок" з адпаведнай праграмай падрыхтаванай настаўніцай Іааннай Хількевіч.

— Жыццё айца Канстанціна Байко было адным вялікім крыжам і стала часткай нашай гісторыі. Мы павінны браць прыклад з яго як святара, настаўніка і лекара, — сказала настаўніца Эва Астапковіч, арганізатарка вечарыны.


Удзельнікі вечарыны. Першыя справа: бургамістр Яраслаў Бароўскі і мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

*Рэцэпты Лідзіі*

## Бабка велікодная жаўтковая



5 шклянак жаўткоў, 2 шклянкі малака, 9 шклянак мукі, трошку солі, 150 грам дражджэй, 1 шклянка масла, 3 шклянкі цукру, скурка аднаго лімона, масла і сухары для формы.

Да 5 шклянак жаўткоў працэджаных праз сіта дадаем дзве шклянкі цеплаватага малака, 9 шклянак мукі, 150 г дражджэй, добра гэта расціраем у макутры ці місцы і ставім, каб падышло. Калі падыдзе, уліваем шклянку скляраванага масла, усыпаем 3 шклянкі цукру, надзёртую скурку 1 лімона ці трохі стоўчанага горкага міндалю, расціраем моцна і доўга. Змяшчаем у форму памазаную маслам і падсыпаную сухарамі і ставім у печ на 45-50 мінут у тэмпературы 170°С.

**Тэкст і фота Лідзіі Маліноўскай**

## Сумесь жыцця

Кожнага з нас хвалюе пытанне — як пражыць доўгае, шчаслівае і насычанае жыццё? Адным са спосабаў захавання маладосці і падаўжэння жыцця з'яўляецца рэгулярнае ўжыванне ўнікальнай сумесі на аснове простых, правераных і натуральных кампанентаў. Ільняны алей, які ўваходзіць у склад сумесі, утрымлівае ў сабе вялікую колькасць поліненасычаных тлустых кіслот, якія аберагаюць нашы сасуды і сэрца, зніжаюць ціск, умацоўваюць сценкі сасудаў, аберагаюць сценкі сасудаў ад атэрасклерозу. Акрамя таго яны гасяць запаленчыя працэсы і паляпшаюць харчаванне тканак.

Вось цудадзейная сумесь для падаўжэння маладосці:

Падрыхтоўка і прымяненне: неабходна здрабніць з дапамогай блендэра або мясарэзкі чатыры лімоны і чатыры галоўкі часнаку, атрыманую масу заліць 300 мл льнянога алею і адной шклянкай натуральнага мёду, старанна перамяшаць. Захоўваць у прахалодным месцы, лепш за ўсё ў халадзільніку.

Прымаць гаючы сродак варта па адной сталовай лыжцы двойчы ў дзень за паўгадзіны да ежы. **Ясюк СТРУК**

## СПАЧУВАННІ

**З глыбокім сумам паведамляем, што 4 сакавіка 2015 года ў Рагозьне на 95 годзе жыцця памёр наш карэспандэнт, паэт і пастаянны чытач нашага тыднёвіка**

**Аляксандр Батура (літаратурны псеўданім: Алесь Свісёк).**

**Словы шчырага спачування Сям'і Нябожчыка выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".**

# 2015 Сцэнічнае слова

**Пятнаццаць асобных выканаўцаў і тры тэатры малых форм адрэкамендаваліся на сёлетнім, ужо трыццаць шостым, выпуску конкурсу «Сцэнічнае слова», арганізаванага Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На гэты раз на сцэне беластоцкай сядзібы БГКТ выступіла выключна моладзь ліцэяў з навучаннем беларускай мове ў Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы. Не падахвоціліся ўдзельнічаць — як да гэтага часу бывала — ліцэісты з іншых мясцовасцей (напрыклад, з Беластока і Саколкі) ці студэнты. Узровень конкурсу, так прызналася ў размове з «Нівай» сяброўка журы, навуковы супрацоўнік Універсітэта ў Беластоку Аліна Філіновіч, быў вельмі разнастайны.**

Многа твораў моладзь зачарпнула з класікаў беларускай літаратуры, выкарыстоўваючы тэксты Уладзіміра Караткевіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы або Максіма Танка. Было таксама шмат твораў сучасных аўтараў — Віктара Шніпа, Юркі і Ларысы Геніюшаў, Сакрата Яновіча ці Міхала Андрасюка. 30 сакавіка, адкрываючы конкурсныя змаганні, старшыня БГКТ **Ян Сычэўскі** звярнуўся да ўдзельнікаў:

— Я думаю, што «Сцэнічнае слова» гэта важная для вас падзея, таму што дэкламуеце беларускія вершы і прозу. Важная ў конкурсе тэатральная форма, таму што вы павінны паказаць свае здольнасці як акцёры, павінны ўвайсці ў душу іншага чалавека, не заўсёды добрага, часам і дрэннага, і шкоднага, а часам нават і злачынцы. Вось чаму я вітаю асабліва акцёры, любяць гуляць у тэатр, а мы, як школа, даем ім такую магчымасць. У гэтым годзе можа замала прыехала ад нас дэкламатараў, трэба будзе працаваць над гэтым, каб было іх больш. Усяго пятнаццаць дэкламатараў для такога конкурсу з'яўляецца аптымальнай колькасцю.

Другакласніца Магдаліна Гаўрылюк (настаўнік Ян Карчэўскі) з Гайнаўскага белліцэя выступіла як першая і выпадкова гэтая чарговасць прынесла ёй шчасце. Раўнапраўна з Мартай Зінкевіч з Бельскага белліцэя (апякунка Анна Бжазоўская) заняла яна першае месца. Так вырашылі члены журы, пад старшынствам Васіля Сегеня, віцэ-старшыні БГКТ, навуковага супрацоўніка Універсітэта ў Беластоку, з выступленнямі і дэкламаваннем вершаў са сцэны. Дэкламую і па-польску, і па-беларуску, няма ніякай розніцы для мяне. Верш гэта верш.

Вучні другіх класаў Бельскага белліцэя пад кіраўніцтвам Яўгеніі Таранты паказалі сцэнку «Нечакана» паводле тэксту Яна Морданя, выкарыстоўваючы шмат рэквізітаў (напрыклад, былі арыгінальныя слоікі-вэкі з грыбамі) і спраўнай пераменай месца дзеяння. Пра сваю падрыхтоўку сказалі «Ніве»:

— Спадарыня Таранта дала нам розныя тэксты, а мы выбралі той, які нам больш за ўсё спадабаўся. З'яўляемся групай, якая ўзнікла толькі з нагоды гэтай сцэнкі. «Нечакана» распавядае пра



Вучні бельскага белліцэя



Вучні гайнаўскага белліцэя

раў, якія ёсць сярод вас, і, магчыма, у будучыні станучь яны прафесіяналамі. У нас ужо ёсць такія прыклады, што некаторыя дзеці і маладыя людзі, якія ўдзельнічалі ў нашых мерапрыемствах, кончылі тэатральную акадэмію, а затым пачалі прафесійна працаваць на сцэнах тэатраў. І таго тым, хто аб гэтым марыць, я жадаю.

Апякун маладых ліцэістаў з Гайнаўкі Ян Карчэўскі не толькі падрыхтаваў двое з іх да дэкламацыі (трэцяя дэкламатарка з Гайнаўскага белліцэя працавала пад кіраўніцтвам Анны Каліноўскай), але і распрацаваў з моладдзю два міні-спектаклі ў больш за дзесяць хвілін. Адзін — «Жыве Беларусь» — быў выкананы дзеючай на тэрыторыі школы тэатральнай групай «Драма» і ўяўляў сабой мікс сцэн са шматлікай сімволікай і беларускімі элементамі, касцюмамі з беларускімі ўзорамі і з выкарыстаннем фрагментаў беларускіх мелодый, якія на трамбоне іграў адзін з вучняў. Была гэта такая шматматыўная карціна з жыцця беларуса на Беласточчыне, падчас прэзентацыі якой гучаць, між іншым, пытанне: «Хто мы, жывучыя на Гайнаўшчыне?» ды адказ: «Калі самі будзем паважаць сябе, то іншыя будуць паважаць нас». Другі міні-спектакль гэта монадрама «Два светы настаўніцы» ў выкананні Марыі Краўчук, якая з гумарам распавядае гісторыю работы адной настаўніцы ў мінулым і зараз, на аснове, у прыватнасці, асабістага вопыту аўтара тэксту Яна Карчэўскага. Калі ў яго спыталіся, што з'яўляецца найбольш важным у падрыхтоўцы да такога конкурсу маладога чалавека, **Ян Карчэўскі** адказаў нам:

— Моладзь у асноўным, дзякуючы падрыхтоўцы да сцэнічных спаборніцтваў, удасканальвае сваю беларускую мову і глыбей пазнае беларускую літаратуру. Акрамя таго, удзел у конкурсе дазваляе ім стаць больш смелымі і адкрытымі, з'яўляецца магчымасцю публічных выступленняў, а гэтае ўменне ў сучасным свеце вельмі важнае. Дзеці і моладзь, дарэ у склад якога апрача Аліны Філіновіч увайшла яшчэ інструктарка Бельскага дома культуры Яніна Плютовіч. Пасля выступлення лаўрэатка першай узнагароды з Гайнаўкі прызналася ў размове з «Нівай»:

— Рыхтавалася я да конкурсу, шматразова чытаючы вершы, якія я выбрала: раз, другі і зноў, пакуль яны засталіся ў маёй галаве. Сілай не прабую вучыцца. Ёсць, аднак, такія тэксты, якія мне вельмі падабаюцца, а якіх не магу запамятаць. Звязваю сваё жыццё са сцэнай. Я хацела б паступіць у Тэатральную акадэмію ў Варшаве. Супрацоўнічаю ў рамках тэатральных заняткаў са спадарыняй Іааннай Стэльмашук-Троц, але ў тэатральным гуртку ў школе таксама ўдзельнічаю, хоць не так актыўна як са спадарыняй Іааннай. Прымаю ўдзел у спектаклях, падрыхтаваных ёю з моладдзю. Сёлета — у спектаклі «Бежанства», зрэалізаваным з нагоды стагоддзя гэтай падзеі.

Сярод сёлетніх дэкламатараў апынуўся адзін хлопец-разынка, вучань матуральнага класа Гайнаўскага белліцэя **Дзям'ян Сураль** (апякун: Ян Карчэўскі). Будучыні не вяжа ён з акцёрствам, таму што — як кажа — гэтае жаданне прайшло яму з узростам. Мае намер хутчэй накіравацца ў тэхнічную ВНУ:

— Мой запал да дэкламацыі пачаўся яшчэ ў пачатковай школе. З тых часоў кожны год я прымаю ўдзел у конкурсах мастацкага чытання — у «Сцэнічны слове» і бельскім «Паэтычным трохгалоссі», хаця не прыняў я ўдзелу ў апошнім «Трохгалоссі», таму што знаходжуся ў матуральным класе і няма ў мяне часу. Я падумаў, што мой апошні выступ, звязаны з удзелам у дэкламатарскім конкурсе, будзе на «Сцэнічным слове». Тады пайду ў вышэйшую школу і больш не будзе ў мяне такой магчымасці. Я падумаў, чаму б не паспрабаваць свае сілы ў апошні раз. Многія людзі маюць талент і маглі б выступіць у конкурсе, але справа ў тым, каб адважыцца. Сам я не маю ніякіх праблем дзяўчыну, у якой быў жаніх, але яна закахалася ў другога, і ў рэшце рэшт засталася адна. Складанасць заключаецца ў тым, каб суперажываць з гэтай роляй. Трэба так паказаць са сцэны, каб усе гледачы зразумелі. Калі гучыць сам тэкст, не ўсе разумеюць яго змест. Пры падрыхтоўцы гэтай сцэны было цяжка асвоіць сам тэкст, бо яго крыху там ёсць. Увогуле, цяжка выступаць на сцэне, таму што маецца вялікі стрэс.

Апякунка бельскай моладзі спадарыня **Яўгенія Таранта** (астатніх восем бельскіх дэкламатараў рыхтавала Анна Бжазоўская):

— Я старалася падрыхтаваць моладзь як найлепш. Больш ініцыятывы ў падрыхтоўцы да конкурсаў даем моладзі. Мы, апекуны, прапануем літаратурныя матэрыялы, але вучні самі гэта правяраюць. Выбіраюць тэксты, што бліжэй сэрцу, у якіх яны адчуваюць сябе лепш. Першапачаткова наша праца над тэкстамі складалася ў асноўным з правільнай расстаноўкі акцэнтаў у словах, таму што з гэтым штораз большыя праблемы. Такія беларускія конкурсы, як «Сцэнічнае слова», вельмі важныя і патрэбныя. Моладзь пры нагодзе можа папрацаваць над сабою, даведацца больш пра сябе. Акрамя таго, такі конкурсы з'яўляецца рэдкай магчымасцю інтэграваць беларускую моладзь з розных школ, з розных мясцовасцей, але і з нагоды паездкі — і з розных класаў унутры школы.

Лаўрэатамі другіх месцаў сталі Дар'я Маліш і Адрыянна Шуй з Бельскага белліцэя, трэцяга — Клаўдзія Дарашкевіч таксама з Бельскага белліцэя і Дзям'ян Сураль. У катэгорыі «Тэатр малых форм» выйграла манадрама Марыі Краўчук, а астатнія пастаноўкі атрымалі раўнапраўнае другое месца. Журы таксама вырашыла вылучыць двух акцёраў тэатральных груп і ўзнагародзіць працу настаўнікаў, якія рыхтавалі моладзь да конкурсу.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Гарадоцкія навіны

Злева: Ян Багдан Бочка, Дарота Сульжык, Ірэна Матысюк, Кацярына Рогач, Данель Сьяргі, старшыня ТСГЗ Барбара Нічыпарук, Радаслаў Кулеша

У 1994 г. паказаўся быў першы нумар двухмесячніка *Wiadomości Gródeckie* — *Гарадоцкія навіны*, які з 1995 г. стаў штомесячнікам. Яшчэ раней, 27 мая 1990 г., у час першых дэмакратычных самаўрадавых выбараў, падчас выбарчай кампаніі паказаўся быў «Голас Гарадка» — часопіс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гарадку, якое атрымала 17 з 20 мандатаў. Задумшчыкам узнікнення і працягу гміннага часопіса быў Лявон Тарасэвіч, цяпер сусветна вядомы мастак і педагог, прафесар Акадэміі мастацтваў у Варшаве, інцыятар і першы старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, прыхільнік і абаронца гістарычнай беларускай культурнай тоеснасці гміны і рэгіёна, беларускі дзеяч, які ад канца васьмідзясятых гадоў жыве і стварае ў арандаваным, а пасля купленым у гміны даваенным школьным будынку ў вёсцы Валілы. Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, якога дзеячамі з'яўляюцца найбольш актыўныя жыхары і супрацоўнікі «Гарадоцкіх навін», выдала пазалетась зборнік легенд, павер'яў, забабонаў і знахарскіх замоў ды працэдур «Знахар гарадоцкі», сабраных леснікам Адамам Ціунчыкам з ляснiцтва Смалярня Надлясніцтва Валілы, два выпускі альбома «Гарадок у старой фатаграфіі». Прафесар Лявон Тарасэвіч і галоўны рэдактар Юрка Хмялеўскі былі заснавальнікамі выдання «Гарадоцкія навіны». Паводле Лявона Тарасэвіча, каб існавала дэмакратыя — патрэбныя незалежныя СМІ: «Ва ўсякіх дэмакратычных пачынаннях, калі мы хочам, каб яны былі добра зроблены, павінны прысутнічаць тры сілы — адна з іх гэта газета, другая — нейкая палітычная групоўка, а трэцяя — самакіраванне, якое і займаецца працай. Дзеянне гэтых трох сіл, калі яны ўзаемна сябе кантралююць, прыводзіць да вельмі добрага эфекту. Калі застаюцца толькі дзве сілы, дык яны пачынаюць з сабою канкураваць, а калі нейкая падпарадкуецца, то застаецца ўжо толькі адна сіла». Штомесячнік «Гарадоцкія навіны» выдае надалей Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі. Артыкулы ў выданні на дзвюх мовах — беларускай і польскай. Яны закранаюць грамадска-палітычныя тэмы, якія тычацца мясцовай грамады, яе гісторыі і сучаснасці, з вялікай увагай да дзеянняў самаўрада.

Дзвесце дваццаць трэці нумар, лютаўскі, быў апошні нумарам «Гарадоцкіх навін», які сваім прозвішчам як галоўнага рэдактара падпісаў інжынер Юрка Хмялеўскі, які з культуры перайшоў у адміністрацыю суседняй гміны. На пасадзе галоўнага рэдактара месячніка апынулася Дарота Сульжык, філолаг, журналістка і мастачка, працаўніца Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку. Сабрала яна старых (неабавязкова па ўзросце) супрацоўнікаў рэдакцыі, каб намеціць праграму, змест і наладзіць працу гэтага беларуска-польскага часопіса.

Адной з першых прапаноў аднаго з даўнейшых супрацоўнікаў газеты Яна Багдана Бочкі было тлумачэнне тэкстаў з беларускай мовы на польскую, бо ён, карэнны гарадчанін, не разумее беларускай мовы, а маладое пакаленне не ведае кірылічных літар.

— Дык можа запішам беларускі тэкст лацінкай? Тады хутчэй усе прачытаюць? Беларускіх тэкстаў жа ж у нас у апошні час не было так і шмат. Вершы спадара Анатоля Парэмбскага са Станцыі Валілы няма ж сэнсу тлумачыць? — пытаецца рэдактарка.

— Трэба растлумачыць ім, хто піша пабеларуску: тут ёсць *Польска*, пішыце папольску, нармальна. Ну не кажу «не друкуйце», але я хачу ведаць не на 60 працэнтаў, што там надрукавана. Што яны, жывучы ў Польшчы, не маглі навучыцца па-польску?

— У гэтым нумары не маем нічога па-беларуску, — пералічае лютаўскі нумар Радак Кулеша.

— Справа ў прынцыпе! — выціскае спадар Ян. — Няхай будзе ці па-беларуску, ці лацінкай, але побач дробным шрыфтом папольску тлумачэнне пра што гаворка!

— Ну дык не хопіць, што будзе лацінкай, дык яшчэ і тлумачэнне па-польску, то ўжо гэта будзе смешна! — дзівіцца Дарота Сульжык.

— Адыход з кірыліцы ў лацінку гэта будзе ваш такі манеўр. МАНЕЎР, — не адстае Ян Бочка. — Не да канца спраўджаны, бо я прачытаю, але не будзе тое самае. Паэзію адпусцім. Паэзія надта ўражлівая справа, паэзію адпусцім.

— А калі б тэкст быў на гарадоцкай гаворцы, здаецца, усім зразумелай, дык і гэта тлумачыць?

— Хмялеўскі пісаў па-беларуску, — не адстае Ян Бочка. — То што — ён не ведаў па-польску? Разумею, што калі б напісала нам асоба з Беларусі, то з цэлай пашанай, напісала б, як умела, няма чаго дадаць. Але калі піша хтосьці з нашай грамадскасці, хтосьці хто скончыў польскія школы, і не ўмее перакласці як гэта па-польску будзе? Ну гэта проста кліна!!! Chodzi o ZASADĘ!

— Справа ў тым, што гэта вылучала нашу гміну, нашу газету — вось тая беларуская літара... — перабівае гарачую тыраду рэдактарка.

Уключаецца заклапочаная бібліятэкарка, якая стала раднай:

— Прыходзіць шмат асоб у бібліятэку і наракаюць, што не ўмеюць прачытаць што там напісана.

— І гэта нашы жыхары? — здзіўляецца Дарота. — Гэтых жа тэкстаў па-беларуску былі ўжо толькі парэшткі.

— Паразмаўляйце з людзьмі пад касцёлам, — дадае Ян. — Ад гадоў газеты не купляюць. Бо не цікавяцца. Ваша задума беларушчыны гэта націск на псіхіку.

— Не думаю, што з-за беларускіх тэкстаў, — уключаюся я. Супрацоўнічаю з «Гарадоцкімі навінамі» ад самага іх пачатку, рэдагуючы не толькі беларускія тэксты. — Пан Ян, тыя асобы, што пішуць па-беларуску на Беласточчыне, пішуць не таму на гэтай мове, што не ведаюць іншай. Магу ручацца, што валодаюць яны польскай мовай значна лепш ад вас. І вашы заўвагі проста не на месцы ў мясцовасці, якая існуе ад дванаццатага стагоддзя, а як горад яна больш за паўтысячы гадоў, ад Хадкевічаў, якія размаўлялі, пісалі і друкаваліся па-беларуску. А «наша задума» гэта не нейкая царская ці бальшавіцкая, як пан тут прабуе нас закрычаць. Вам што, кепска робіцца ад таго, што ўбачыце беларускі тэкст на старонках гміннай газеты? Ну дык не чытайце, калі вам ныдка. Няма чаго цешыцца сваёй абмежаванасцю. На шматкультурнасці ў сучаснай Еўропе можна толькі зарабіць. Дарэчы, Гарадоцкая гміна пра гэта ведае.

— Я не кажу, што мне кепска ад беларускага слова! Я сцягнуў у інтэрнэце кніжку нашага земляка Аляксея Карпюка «Развітанне з ілюзіямі», і даў рады сам прачытаць, — тлумачыцца спадар Ян Бочка. — А нават купіў пасля яе папяровую версію. І хочам яе ў нас выдаць, як Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, па-польску...

Далей дыскусія пакацілася сутнасная. Якія матэрыялы працягваць, пашыраць. Якія здымкі друкаваць. На якой паперы — ці надалей на крэйдавай, такой дарагой. Чытачы заўсёды цікавяцца, чым займаецца гарадоцкі самаўрад, таму так многа месца займаюць справаздачы з пасяджэнняў Гміннай рады, і будуць яны надалей. Былі і будуць — вельмі добрыя, змястоўныя інтэрв'ю, справаздачы і фотарэпартажы з гмінных імпрэз, якія з'яўляюцца сапраўднай візітнай карткай Гарадоцкай гміны. Калісь былі шырэйшыя школьныя старонкі, якія сталі таксама месцам на дэбюты журналістаў і літаратараў. Вельмі добрую спартыўную старонку вёў калісьці Міхал Шышкевіч — добра было папрасіць яго, каб вярнуўся да справы, пашукаць яшчэ іншых заўзятараў і спецыялістаў па спорце. Тут успамінаецца знакамітая каманда дзяўчат па хакеі на траве — лепшая ў Польшчы, дзяўчаты з якой іграюць і ў зборнай камандзе краіны. Варта працягнуць таксама гістарычныя тэмы — калісьці ішлі цэлыя цыклы гістарычных аповедаў Сакрата Яновіча пра гарадоцкі замак, друкаваліся тэксты яўрэйскіх гарадоцкіх выхадцаў пра іхнюю даваенную абшчыну. Тэксты заўзятых прыхільнікаў роднага, якія гуртуюцца ў Таварыстве сяброў Гарадоцкай зямлі, розных па прафесіі, адукацыі, але цаглінкі працы якіх дакладваюцца да будынка падтрымкі свайго. А самі супрацоўнікі часопіса, аддаючы свой час і сілы, хочуць працягнуць яго існаванне і развой.

— А і пан Ян Бочка — вельмі таленавіты, дапытлівы журналіст, які не раз сядзе на ровар, зловіць тэму, даедзе, абфатаграфуе, апіша, — дадае рэдактар Дарота Сульжык. — І маладыя таксама няхай вучацца журналісцкай справе.

Пакуль усім яшчэ трэба вучыцца, таксама і газетнаму набору па складанай і дарагой праграме. Тут яшчэ трэба будзе папрасіцца дапамогі ў інжынера Хмялеўскага, які перайшоў да ўлад Міхалоўскай гміны (аб'яву якой яшчэ нядаўна зрываў са сцяны ГЦК). Але і ўлады, і норавы мяняюцца. А еўрапейская гмінная газета павінна існаваць і дзейнічаць.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



# Разгульваць дурняў

У кітайскім календары маем зараз год Казы. У выбарчых гонках гэтага года ў Польшчы і Беларусі маем год важных выбарчых рашэнняў. Паўсюдна ідзе разгульванне патэнцыйных выбаршчыкаў і канкурэнтаў, якім у большасці прыпадзе роля палітычных казлоў.

З сусветнай палітыкай нешта падобнае як з іграй у карты. І не ёсць гэта вытанчаны і інтэлігентны брыдж, ці як некаторыя лічаць дальнабачныя шахматы, але найзвыклейшая ў свеце гульня ў карцёжнага дурня. Гэта такая гульня, якая азартна распальвала мяне і маіх сяброў у дзяцінстве і маладосці. Была таксама адной з нешматлікіх радасцей у свабодны, нядзельны пасляабедзенны час пакалення маіх бацькоў і дзядоў у маленькай пушчанскай вёсцы на польска-беларускай мяжы. Нервы, радасці ад выйгрышу і амаль слёзы ад пройгрышу складалі непаўторную атмасферу барацьбы, быццам як мінімум ішло змаганне за алімпійскія прызы. У дурня гулялася ў паасобку або па парах. Кожны з пачаткоўцаў у парным баі, вядома, хацеў гуляць з найлепш думаючымі ігракамі. Біць, перапрабіць і загнаць сапернікаў у пройграных з калодай карт — просты і жалезны рытуал кожнага раўнда карцёжных войнаў. І тут самае важнае — у час ігры проста абавязвалі прынцыпы, аднолькавыя ў такой жа самай ступені для майго дзеда, паважаных суседскіх сялян і нас, падшыванцаў, якія з раскрытымі ратамі сачылі за шматгадзіннымі змаганнямі, забыўшыся на яду ці вяртанне дахаты. Не любілі і каралі тых, хто спрабаваў ашукваць. З такімі, хто паспрабаваў абмануць, проста ніхто не сядаў да гульні, а найбольш запальчывыя ігракі доўгія месяцы да іх нават не адзываліся. Нават на побытавым узроўні. Адным словам, пераклаўшы на сённяшнюю мову палітыкі, для такога ашуканца ўводзіліся санкцыі. І доўга такі абвінавачаны ашуканец мусіў старацца, каб назад вярнуцца да розыгрышнага стала. Недавер, аднак, заставаўся на ўсё жыццё.

Таму звычайнаму чалавеку, які глядзіць на сённяшніх палітыкаў, што вядуць безупынную гульню ў ашуканскага дурня, проста млосна становіцца ад бачанага і пачутага. Застацца ў дурнях найчасцей прыходзіць нам — звычайным грамадзянам, якія зноў паверылі ў чарговыя абяцанні. «Абяцанкі-цацанкі, а дурному радасць», — гаворыць народная прыказка. Ну, але прынамсі тэарэтычна мы маем шанц адпомсціць такім палітычным прайдзісветам выбарчай карткай, паслаўшы іх у тую частку цела, якую зрэдку могуць паказытаць сонечныя промені. Хіба, што так выбарчыя камісіі падлічаць галасы, ад якіх скрыгатанне зубамі будзе толькі пачаткам да далейшага супраціву. Апошнія самаўрадавыя выбары ў Польшчы павеялі сумам, ізноў нагадалі пра палітычнага ашуканскага дурня.

А што ж у такой сітуацыі могуць сказаць жыхары Беларусі? Перад імі, чарговы, без аніякіх прынцыпаў — чытай дэмакратычных правілаў — прэзідэнцкі выбарчы дурань. Аляксандр Лукашэнка патрабуе менавіта такіх палітыкаў-самагубцаў, якія апавесцяць пра сваю амбіцыйную смешнасць у такіх гонках. Адзінае, то адмовіцца ўсім ад гульні ў такога менавіта дурня, каб навечна не застацца ў пажыццёвых дурнях. Бо ўсё ж і ў такой простай гульні ўсе яе ўдзельнікі тэарэтычна і практычна павінны мець роўныя шанцы. Так павінна быць нават і ў беларускай палітыцы.

Яўген ВАПА


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі



фота Янкі Целушэцкага


фота Ганны Кандрацюк

# Буславы лапкі і яйкі з перніка!

*Бусел-бусел,*
*на*
*лапу.*
*Полюбі*
*сюю хату!*

Што гэта за лапа? Якая гэта песенька? Каму яе і навошта спяваць?

Калі хочаце ведаць, паслухайце, што скажуць дзеці другіх «а» і «б» і трэцяга «а» класаў з бельскай «тройкі». «Буслава лапка» — гэта смачная булачка. Яна смакавала больш за ўсе ласункі, бо дзеткі спяклі яе на ўроках у школе.

— Як гэта магчыма? — пытаем настаўніцу Марыянну Ваўрусевіч.

— Дзеці зрабілі паводле бабуліных рэцэптаў цеста, пасля сфармавалі булачкі, парэзалі іх і спяклі...

— На сонцы?

— Не, не, — смяюцца ў класе.

Тут не было чараў. Настаўніца прынесла з хаты электрычную печку. Праўда, найгорш было дачакацца выпечкі, бо булачкі пякліся ажно сорак хвілін. А пах такі разносіўся па класе, што ажно кішкі самі маршігралі.

Адмысловыя булачкі, вядомыя ў народзе як «буслава лапа», нашы бабулі выпякалі пад свята Дабравешчання (25 сакавіка па каталіцкім календары і 7 красавіка па праваслаўным). Булачкамі абдароўвалі дзяцей. Часам у сярэдзіну клалі манету. Той, хто знайшоў яе ў сваёй «лапцы», мог спадзявацца незвычайнага поспеху на працягу года. Адну «лапку» заўсёды клалі ў буслянку. Гэта мела паспрыяць багаццю ў хаце. Найбольшае багацце для нашых продкаў — гэта дзеткі. Асабліва ў нашай сялянска-лясной культуры чакалі хлапцоў — будучых земляробаў, дрывасекаў, араляў, майстраў. Таму, калі клалі ў буслінае гняздо выпечаную «лапку», казалі: *«Бусел, бусел кішка, прынясі брацішка!»*.

Прылёт буслоў заўсёды натхняў беларусаў да спеваў і гульняў. Вось нашы сябры, быццам тыя жаваранкі, цэлым класам радасна і энергічна праспявалі жартоўную песню пра бусла. Песню пажадана спяваць у вясновым карагодзе — магічным танцы з адмысловымі фігурамі. Ён крыху напамінае вясельнага «вужа».

*Летіэв бусел*
*чрэз гуліцу*
*злапаў «Соню»*
*за потыліцу.*
*Цягаў-цягаў,*
*волочыў-волочыў,*
*покуль*
*дождњык нэ змочыў.*
*(У песні падбіраем імёны ўдзельнікаў гульні).*

На ўроках беларускай мовы нашы сябры не толькі выпякалі «буславы лапкі». На Дзень мамы яны падрыхтавалі ільняныя сумкі з узорамі з беларускіх ручнікоў. Перад Калядамі рыхтавалі ёлкі з салодкага перніка. Таксама пад Вялікдзень будуць рабіць перніковыя яйкі.

Так, мы ведаем, што нарабілі вам смаку. Таму для ўсіх прапануем рэцэпт, на «буславу лапку», які падказала нам Ганна Фіёнік з Музея ў Студзіводах.

— Свята Дабравешчання выпадае ў пост, — адзначыла яна, — таму *цеста* трэба зрабіць поснае, без яек і смятаны. Замест смятаны трэба дадаць растоплены маргарын, змяшаць яго з мукой, драбком цукру і солі, вадой і дражджамі. Перад тым, пакуль паставім булкі ў печ, трэба па версе памазаць іх курыным бялком. Каб булачкі атрымаліся румяныя! Пячы трэба 30-40 хвілін, гэта залежыць ад тэмпературы печкі.

— А каб зрабіць яйкі з перніка, — паясняе спадарыня Марыянна, — трэба мець адмысловую форму. У ёй мы выпякаем паўкруглыя палавінкі. Рэцэпт на цеста, такі як на традыцыйны пернік. Калі хто не ведае, хопіць зазірнуць у інтэрнэт. Калі палавінкі спякліся, трэба іх зляпіць, каб атрымалася яйка. На канец чыстая роскаш. Пернікавыя яйкі дзеці аздабляюць падрыхтаваным паводле сваёй фантазіі люкрам. Такое яйка можа паслужыць аздобай. Але не толькі! Яго можна з'есці «са шкарлупінкай».

**Зорка**

## УВАГА КОНКУРС! № 14/15-15

### Загадкі з роднай хаткі

Дом драўляны,
габляваны,
З кругленькім акенцам,
Без дзвярэй
і сенцаў.
Гаспадар —
То ж мой дружбак,
нявялічкі
шэры
(Ш...)
(Н. А. Сторажава)

Не сучок,
не лісток,
не кветка,
а на дрэве
расце
(К...)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 19 красавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадкі № 10-15: каляндар, радыё, гром.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Ігар Кардаш з Нарвы, Габрыеля Карбоўская, Раксана Івацік, Рафал Вакулюк з Гайнаўкі, Уля Марчук з Нараўкі. Віншуем!

(Вынікі жараб'ёўкі вы можаце пабачыць ужо ў сераду на фейсбуку на сайце Сустрэч «Зоркі»).

Эмілія КАЗЛОЎСКАЯ
Геранімова, ПШ у Міхалове

### Вялікдзень

— Куды мы папалі?!
Зайчык кажа барану.
— Прыгожыя гэтыя яйкі,
але мы хіба не з гэтай байкі?
Баран на гэта:
— Гэта ж не казка,
тут Вялікдзень святкуюць!
Святкавалі і звяры.

# Вялікдзень у вёсцы Біндзюга

Вялікдзень у Біндзюзе адзначалі радасна. Вёсачка прыналежыць парафіі ў Новай Волі, у царкву дзевяць кіламетраў. На багаслужбы людзі ездзілі фурманкамі або хадзілі пешшу. На Вербніцу неслі ў царкву асвячаць развінутыя галінкі вярбы. Пасля асвячэння галінак біліся імі і гаварылі: Вярба б'е — не я б'ю! За тыдзень — Вялікдзень!

Увесь тыдзень перад Вялікаднем людзі хадзілі ў царкву. У аўторак, на заклік бацюшкі, жанчыны прыбіралі ў царкве. У вялікі чацвер чыталі 12 Евангелляў. Людзі варталіся дахаты ажно ў адзінаццаць ночы. На другі дзень яны прыходзілі на 14-ю гадзіну на вынас Плашчаніцы. На ўсё ў іх хапала часу.

У суботу ў вёску прыязджаў бацюшка асвяціць ежу. Людзі збіраліся ў адной хаце. У кошыкі яны клалі каўбасу, соль, мяса, пірог. Ноччу ехалі вазамі ў царкву на Усяночную. Вярталіся раніцай. Гаспадар ішоў карміць жывёлу, а пасля ўся сям'я сядала за стол разгаўляцца – есці святочнае снеданне. Пасля ішлі на вуліцу. У гэты дзень віталіся зваротам «Хрыстос Васкрэсе» — на прывітанне трэба было адказаць: «Ваісціну Васкрэсе!»

У другі дзень Вялікадня людзі хадзілі ў госці, наведвалі сваякоў, хросныя бацькі насілі валачобнае дзецям. Усе мелі свае радасці.

Юліта Грыка, Школа ў Міхалове


Юліта Грыка (чацвёртая злева) з сябрамі

## Каша з сякеры
*(руская казка)*

Адзін салдат адслужыў у цара дваццаць пяць гадоў і пешшу сотні кіламетраў ішоў дахаты. Ён стаміўся і зграладаўся як воўк. Калі дабраўся да нейкай вёскі, зайшоў у першую хату і папрасіў паесці.

— Добры дзень, гаспадыня! Дай нешта паесці, тры дні ўжо не еў.

Гаспадыня жыла багата, але была надта скупая.

— Няма ў мяне яды, — адказала з ходу. — Я сама яшчэ сёння нічога не ела.

— Ну, калі так, дык так, — разгубіўся на момант салдат.

Ён разглядзеўся яшчэ па ізбе і ўбачыў сякеру пад лавай.

— Дай тады, — прапанаваў ён гаспадыні, — згатуем кашу з сякеры.

— Як кашу… з сякеры? — кабета выпрачыла вочы.

— Нармальна, — адказаў ёй салдат. — Дай мне гаршчок, сама пабачыш.

«Цікава, — думае гаспадыня. — Хоць пагляджу як ён гатуе кашу з сякеры». Прынесла яна гаршчок. Салдат памыў сякеру, паклаў яе ў каструлю, заліў вадой. Паставіў на агонь і гатуе. Гатаваў, гатаваў, пакаштаваў і кажа:

— Неўзабаве каша будзе гатова. Шкада толькі, што солі няма.

— Ёсць у мяне соль, — сказала гаспадыня і прынесла соль.

Салдат пасаліў, зноў пакаштаваў:

— Добрая каша, толькі круп мала. Трэба яшчэ дасыпаць.

Гаспадыня прынесла крупы. Салдат дасыпаў круп, гатаваў, гатаваў, закалаціў і пакаштаваў.

— Ну, як каша? — пытае гаспадыня.

— Ах якая смачная! — пахваліў салдат. — Толькі яшчэ маслам трэба даправіць.

Гаспадыня пайшла ў камору і прынесла масла. Салдат даправіў, закалаціў і кажа:

— Каша гатова, бяры лыжку, будзем цяпер есці.

Селі яны за стол і ядуць кашу са смакам.

— Я ніколі б не падумала, што з сякеры такая смачная каша, — дзівавалася гаспадыня.

А салдат есць і паціхеньку заўсміхаецца. Калі яны з'елі ўсю кашу, гаспадыня спытала:

— Салдат, а калі сякеру будзем есці?

— Яна яшчэ не зварылася. Пачакай, пакуль яна стане мяккай. А мне час у дарогу.

Развітаўся ён з гаспадыняй і, падбавіўшы ходу, пайшоў далей.

*(Пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*


Беластоцкія гімназісты адзначылі Дзень Волі

## Вершы Віктара Шведа

### Пералічыла

Адкажы ты нам, Эльжбета,
Колькі маем частак свету?
– Мы заўсёды памятаем,
Што пяць частак свету маем.

– Ведаеш, ды не маўчы,
Іх ты нам пералічы.
– Найлягчэй іх перадаць:
Раз, два, тры, чатыры, пяць.

### Заашчадзілі грошы

– Быў дагавор татулька ў нас:
Як прайду ў наступны клас
Ты купіш мне веласіпед.
Па дагаворы толькі след.

– Датрымаць слова я не змог,
Завысокі быў парог.
– Дык цешся, татка мой харошы,
Заашчадзілі мы грошы.

## Польска-беларуская крыжаванка № 15-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11:**

Соль, перавага, ало, Ліда, прадвесне, лапа, маркіз, моц, чатыры, твар, кактус. Сом, плот, рап, задача, ар, рэ, смык, нара, Валерык, Алі, год, аазіс.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Тымэк Петручук, Януш Банькоўскі** з Нарвы, **Марыюш Красько, Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Уля Марчук, Магда Пташынская** з Нараўкі, **Аляксандра Буслоўская, Іаанна Рута, Вераніка Жох** з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

Szałas
Na czele klucza gęsi
Mleko
Widowisko
Wasz
Wiosna
Bursztyn
As
Zasiane pole
Halo!
Noga
Krawędź
Skowronek
Szczyt
Rosa
As
Ikona
Gen
Szpak
Harcerz




Марыя САШКА

# Не рыдай мяне маці

Сонца ўжо села за лесам пакрытым першай мяккай зеленню, калі Марыя, адзінокая, жывучая ў невялікім доме ля чатырох бяроз, першы раз за цэлы дзень прысела адпачыць. Паўло, верны спадарожнік яе жыцця, адышоў два гады таму, сэрца проста закалола, не змог працярпець смерці сына. „Паўлуша, Паўлік ты мой, саколік, завінуўся ты ў хвіліну, прыйшла ад кароў, а ты сядзіш, радыё слухаеш, ды ўсё, бывала, Італію шукаеш, як бы сынок меў там выступаць, адазвацца — мёртвы сядзіш!.. Іншых дзяцей у нас не было, чамусьці не выйшла, на каго віну складаці? Сёння б як золата знайшлі!" — гаравала маці. Стараліся, гадавалі, вучылі Пятрушаньку, а ён паехаў на Сіцылію збіраць вінаград і памідоры, дзе фірмавыя нашы арганізатары, злыдні — як аказалася, абяцалі добрую працу няцяжкую і заработак. Вярнуўся адтуль сыночак у труне жалезнай, бацькам яго не паказалі (можа там не ён, а жыве шчэ недзе, вернецца?). Голасна было тады, рэкеціры — ганг, вымагаючы аддаваць кожнаму з хлопцаў стаўку грошай — білі непаслухмяных палкамі і ланцугамі, свае сваіх, польскія польскіх. Суды не памаглі, ніхто амаль нічога не выясніў; італьянцы, усміхаючыся, гаварылі ціхенька, што іх мясцовая **„cosa nostra"** гэта шалуха-пыл пры магутным і ў іх **„Don Giuseppe Polacco",** якому з павагай казыралі-салютавалі там усе карабінеры. Пятрушаньку шукалі, нібы шум рабілі, а яго мора выкінула далёка ад мястэчка, якое ва ўсім маўчала, „нічога не ведала"... У нас і пахавалі Пятрушаньку, потым і бацька заспяшаўся, лёг побач — „Як вы там? Хоць удвох разам, а я адна! — добра што могілкі блізка, свечкі запалю, кветкі пакладу, ты так настурку любіў, дзетанька — сыночак, боль ты мой, утробанька родная, Паўлушанька, Паўло мой, гаспадарыку!..".

Няма цяпер у Марыі нікога, сёстры толькі наведваюцца, адна з Забрадоў, другая з Плянтаў, да сябе клічуць. Ды куды ж са сваёй хаты? „Лазіш яшчэ, карову падоіш, курэй накорміш, агарод праполеш — і занятак ёсць, туга зменшыцца... — Ох, дні мае, неспакойныя, яшчэ ж і не старыя, глыбокія, стогадовыя; колькі? — а нашто іх лічыць? Самі, як пацеркі, на нітку складаюцца, збіраюцца, на шыю вешаюцца, валасам сівець памагаюць!.. Ды каб не слабасць, што на прапіску пастаянную прапісалася, учапілася, вочы памутніла, да зямлі нечакана гнуць пачала, той яшчэ б нічога, вытрымаць можна!..

Марыя абгледзела дом. Сказала сабе ціха: „Здаецца, усё й гатова. Пасачку бацюшка прыехаў-пасвяціў, у доме прыбрана, з сабой парадак навяла, яшчэ бялізну чыстую надзець — дый усё тут, якія ж яшчэ справы ў маці-адзіночкі?.. На Службу Святую ў палове дванаццатай, яшчэ і часу нагавата... Гадзіннік завесці-накруціць трэба, вялікі, што звоніць курантамі — спявае, а то задрэмлеш-забудзешся, дый праспіш, не дай Божа...". Яна перахрысцілася, паглядзела ў акно...

Вечар наступаў ціхі, спакойны — бо як інакш у Вялікую Суботу? — маросячы малюсенечкім дождждыкам, пылінкамі, краплінкамі-бубашкамі. Усё заціхла, занямела, Пасха сёлетняя — майская, позняя, заўсім веснавая.... Хаця б ночка-та была пагодлівай — захвалявалася Марыя. Не запальваючы святла, яна прылегла на ложак, не перастаючы думаць пра надвор'е. Людзі ж, вось-вось, пачнуць у храм ісці, ехаць, аж з Масева пацягнуцца таўпы людзей, хто пяшком — калі блізка, хто на самаходзе — каму далей, дарога замільгае бліскаценнем фараў-рэфлектараў, са Стачка і Скупава моладзь на японскіх матацыклах прымчыцца... Выйдзеш на вуліцу, а там усе вокны суседскія гараць-палыхаюць, гэта збіранне ў царкву... І пойдуць людзі, паедуць рознакаляровыя машыны, адзін фасон ад другога навейшы, маднейшы — тэхніка пайшла, хоць да мястэчка ў нас рукою ж падаць... А там, на ўзгорку, сярод елак, сосен, царква ледзь-ледзь у гэты перадсвяточны час свеціцца высокім і шырокім купалам, бо святло запылае агромністым возерам, морам цэлым разліецца ў час хрэснага ходу і звон векавы — хто ведае колькі гадоў яму? — загудзе, рытм вызначыць меншым сваім брацікам, музычнай сям'і цэлай, якія апавесцяць за начальнікам радасць вялікую, пасхальную... Падыдзеш паўбліж да храму — і дух захопіць: вось яна, святыня, белакаменная прыгажуня, больш трохсотгадовая, чыстая, украшаная. Як сам Чартог Спасаў, нябесны... Пасярэдзіне — Гроб Гасподні, майстэрска ўбраны ў кветкі белыя, каліі ды гартэнзіі з ружамі, перад каторым ніц упадзеш а ўсё здаецца, што і так ты, чалавеча, за высока знаходзішся, стаіш, ходзіш, галаву ўверх дзярэш, высішся. Стаіш — і зменшыцца хочаш, пробуеш, чуючы немач і слабасць сваю — гордасць зялёную: усё вышэй і вышэй, не паддаціся, каб ніхто не перамог, не пераскочыў, не апярэдзіў — адкінуць стараешся, згубіць дзесьці, бо ўжо галава кругам пайшла, а для простага хатняга шчасця і месца і часу не засталося... Затрымайся, свеце, водаварот свой у хамут запражы, бо заесць ён цябе, зацягне і нікуды ты не дойдзеш, не даедзеш, згубіўшы галоўнае — с-я-б-е, душу тваю, бо качанее яна, бо р-о-б-а-т-а-м становіцца, накіп'ю, нагарам... Хоць сёння, перад Спасам у Гробе, стань, людзіначка, затрымайся, не спяшай, ты і так ужо сябе „апраўдаў" — часу няма, работа! — на Службу дняўную не пайшоў, а ты б пачуў, як малітва сёння навучала: „Да молчит всякая плоть человеча, и да стоит со страхом и трепетом, и ничтоже земное в себе да помышляет"... Затрымайся, хоць сёння, заўтра, часу другога не будзе — дабраты і ласкі хоць жменьку малую ўзяці, каб сэрца твае па-вясенняму, Божаму, заспявала, ускалыхнуліся людзі, слёзы на вейкі навярнуліся...

Палунашчніца пачнецца з зямной цішы: „Волною морскою скрывшаго древле, гонителя мучителя, под землею скрыша спасенных отроцы; но мы, яко отроковицы, Господеви поим, славно бо прославися...". Гаспадзі, Цару мой, дзякуй Табе, што дазволіў-спасобіў і ў гэтым годзе спаткаць Твае Светлае Уваскрэсенне!.. „Не рыдай Мене, Мати, зрящи во гробе, Его же во чреве без семене зачала еси Сына: востану бо и прославлюся, и вознесу со славою непрестанно, яко Бог, верою и любовию Тя величающия" — хор спявае апошнюю, дзявятую песню канона, спачатку ціха-ціхенька, потым усільвае-ўзмацняе, гэта Соня і Валодзя — сапрана і тэнар — красуюцца, прарочаць Уваставанне Спасава ва ўсёй Славе і Велічнасці...

Ідзе хрэсны ход, тройчы, паўкругі царквы, са спевам і многа разоў: „Воскресение Твое, Христе Спасе, Ангели поют на небеси, и нас на земли сподоби чистым сердцем Тебе славити...". Загойдаюцца ўсе званы, звяшчаючы Радасць Неапісаную, Свет Ціхі, Святыя Словы — хто адважыцца-асмеліцца ўсумніціся, што Ты, Спасе наш — Збаўца, сёння Уваскрэснеш?.. „Боже, во Имя Твое спаси мя и в силе Твоей суди мя...". На каменнай царкоўнай агароджы гараць лампады-знічы вялікія, факелы — смаляныя пасуды палыхаюць. Ні галіначка дрогне ці вецер загудзіць, засвішча — гэта прырода, моўчкі, паклон свой нізенькі тварыць Цару свайму, Богу і Тварцу. Ціш наўкругі, і з-в-а-н-ы! З-в-а-н-ы! — чуеце? — усё з-в-а-н-ы! — Хрыстос Уваскрэсе!.. Хрыстос Уваскрэсе! Хрыстос Уваскрэсе!..

Як жа лёгка дыхаецца, як узнёсла пачуваеш сябе, чалавеча! Калі ты старшы — годы твае кудысьці адлятаюць, здаецца, зменшваюцца; калі ты малады — адчуваеш, што веснавыя крылы табе выраслі, бо гэта Светласць Нябесная ў сэрцах людскіх паявілася, вялікая, бязмерная, пераможная; у кожнага, хто Збаўцу Богам прызнаў, у душу прыняў хоць адзін раз у год, на Пасху Свяшчэнную; „Любочестив бо Сый Владыка, приемлет последняго якоже и перваго: упокоевает в единонадесятый час пришедшаго, якоже делавшаго от перваго часа. И последняго милует, и первому угождает, и оному дает, и сему дарствует, и дела приемлет, и намерение целует, и деяние почитает, и предложение хвалит. Темже убо внидите вси в радость Господа своего: и первии и втории, мзду приимите. Богатии и убозии, друг со другом ликуйте. Воздержницы и ленивии, день почтите. Постившиися и непостившиися, возвеселитеся днесь... Никтоже да рыдает убожества, явися бо общее Царство. Никтоже да плачет прегрешений, прощение бо от гроба возсия".

Жыць хочацца, спяваць хочацца, голасна, свету, знаёмым, сваім, чужым, табе — перш за ўсё — Богу, Стварыцелю, якаж на зямлі і ў нябесі, і праслаўляць Цябе безупынна, прызываць Імя Тваё Святое, Вялікае, Слаўнае, бо «воистинну священная и всепраздественная сия спасительная нощь и светозарная: Светоноснаго дне восстания сущи провозвестница, в ней же Безлетный Свет из гроба плотски всем возсия...».

Марыя ціхенька ўсхліпнула, перахрысцілася, устала і падышла да вугла, да Іконы Спасіцеля, ідучага па марскіх хвалях. Там, на этажэрцы, ляжаў яе скарб залаты, увесь яе цяперашні маёнтак — сыноўскія пісьмы. Няма яго ўжо, Пятрушанькі, нямашака... У 2000 роўным годзе распрашчаліся бацькі з ім, назаўсёды, аказалася... Паехаў лепшага хлеба шукаць на чужыні сіцылійскай; на радзіме і ўніверсітэт яго аказаўся непатрэбным. «Даждаліся», як прыказка старая навучала-вяшчала: «даждаліся казакі — ні хлеба, ні табакі; зубы на полку палажы і паветра паліжы!..» А потым і пісьмы з Італіі перасталі прыходзіць, бацькі захваляваліся, званілі, даведваліся, шукалі... Ім сказалі, што прапаў ён уначы, аднойчы, за кіламетры знайшлі яго потым на пляжы, мора выкінула, абгрызенага рыбамі і крабамі... Карабінеры былі ўзяліся і за палякаў, і за арабаў, ды тут жа хутка і спусцілі свае стрэльбы-вінтоўкі...

Маці запаліла начную лямпачку, развязала хусцінку, дастала пісьмы... Апошняе было з 2002... «Каханыя Вы мае, мілыя! — пісаў Пятрушанька. — У нас тут усё вясна, усё лета, памешана разам, жарынь стаіць, палыхае, дух забівае... І дрэвы тут не нашы — мацакі, зямля ўвесь час вады прагне; вышэй, у гарах, ёсць і тут дубы магутныя, каштаны велічэзныя, у нізоўі — толькі вечназялёныя цвёрдаліставыя кустарнікі, часта араматныя, з запахам прыемным, як кадзіла, іх макхіяй называюць... Але калі падумаю пра нашу пушчанскую вясну, астраўкі снежнапорыстай прашлагодняй травы, усё зялёнай і пахнучай дзіўнасцю нейкай, пра тое, як раніцай лужынкі пахруствауць лядком тоненькім, як першыя птушкі галосяць, перабіваюцца, свішчуць — якія тут могуць быць у раду, побач, макхіі?.. Як успомню пра нашы дрэвы-старэчы-сілачы, якія й самы ў сваіх гадах заблудзіліся-заплёнталіся — з ліку збіліся; пра паляны зарослыя і прагаліны светлыя, прасторныя, дзе стаяць мае ўмілаваныя бярозанькі, дзе адна з іх, асабліва, мне, бывала, галіначкамі махала, лісточкамі ліпкімі, зялёненькімі, такімі свежанькімі; сок смачны пускала, прабаваць клікала, заахвочвала, і я ёйківаў сваёй чупрынай, здароваўся — трудна мне тут на чужой зямлі!.. Італьянцы ж на Сіцыліі зусім не бачаць, што за краса снег наш бялюсенькі, які формы розныя прымае ў нас дзе падае, дзе ляжыць; глянеш — і задзівішся: перад табой на круглым фанары, пры вуліцы, ён на шапку-вушанку падобны, на смеццевых скрынках — мылам пеніцца або як піва шуміць — чысцюля, на кратах драўляных нашай садовай альтанкі-бяседкі пірагом слаёным разлажыўся, да яды запрошвае; на корчыкахкусціках парэчак і агрэсту-крыжоўніку ружамі белымі рассыпаўся. Панюхаць маніць... А як жа было калісь радасна, памятаю, калі я ў боціках, а наўкругі каша-брыдэча мутная-гразкая снежна-балотная, і я — бухаю, у глыбінь яе ўскакваю — яна ж увысь мяне ляціць-свішча, а я скачу далей, яшчэ глыбей, а там — вады азярцо-люстэрка выплывае, дзе заразкі адбіваецца паўцарства сіняга неба, дрэваў вяршыні кіламетровыя... Мілыя мае, даражэнькія, да болю тужу за нашай хатняй пушчанскай вясною!.. Яна цяпер у вас царствуе, пануе, каралева зялёная!.. І галінкі дрэў нізка апускаюцца, бярозавыя, івавыя, і ты ўхвацішся, падскочыш, адаб'ешся ад зямлі, і п-а-л-я-ц-і-ш! У-в-ы-с-ь! Каб дух забіла, затрымала, каб у роце перасохла, вочы слязамі радасці зайшліся!.. Як жа мне да вас хочацца гэтак адсюль даляцець!.. Кіну я тут гэтую Еўропу, Італію сонечную, усе тутэйшыя ліры ды еўра, у горле яны мне стаяць, наеўся, узбагаціўся. Пашпарт толькі якась трэба забраць, а то «паны» забралі, прыхавалі... Канчаю, на работу зноў едзем; пэўна сёння бой у нас новы будзе, «апекуны» нашы ўчора і ў туркаў ужо таксама грошы адбіралі...".

Марыя стала на калені, прытуліла пісьмы да грудзей і маўкліва, са слязамі, ківала галавой... Твар пагібшага Пятрушанькі быў перад ёю, яна плакала голасна, Паўло вінавата перапрошваў яе, што самую пакінуў... Яна ўскінула рукі з пісьмамі, асунулася на падлогу... Сон надышоў непрыкметна...

Явіцца ёй, што падыходзіць яна да цэркваў нейкіх агромністых, не нашых, не бачаных, залацістых баняў-купалаў, са званамі і харамі велічнымі, галоснымі. Гэта не нашы Супрасль, Грабарка, не Яблачын; можа Кіеў далёкі, Лаўра Сергіева ці Дзівеева Серафімаўскае, Іерусалім Новы пад Масквой, а мо Афон грэчаскі? Адтуль, з-за брамы-агароджы-сцяны белай — С п а с і ц е л ь ідзе да Марыі насустрач!.. Як бы зышоў з Іконы, што ў вуглу хаты і цяпер вісіць!.. А побач Ісуса — сыне, Пятрушанька, жывы, здаровы, з усмешкай, з галавой сваёй кучаравай, ды

працяг ☞11

# Пра менш вядомы Райск (ч. III)

**А цяпер можа крыху пра кніжку — звяртаюся да спадарыні Ірэны ЦІШУК. — Яна ў агульнасці расказвае пра лёс нейкага тутэйшага хлопца, які ўсё беспаспяхова шукае свайго шчасця: спярша дзяўчына, за якою ён свету не бачыў, не хацела на яго звяртаць увагі, пасля ейнай смерці ён шукае кантакту з пазнаным раней кумірам-чырвонаармістам, які мае быць яго кампаньёнам-партызанам…**

— Кніжку Шулецкай можна прачытаць не адводзячы вачэй, але для мяне, цяпер, гэта нейкае звычайнае апавяданне. Калі я стала знаёміцца з той нашай ваеннай гісторыяй, дык гэта былі жывыя раны. Я нарадзілася амаль дзесяць гадоў пасля тае трагедыі нашай вёскі, але ўсё яшчэ яна была жывая ва ўспамінах людзей. Аўтарка, Мар'я Шулецкая, жыла ва ўдавіцы — Вікторыя яна называлася. Калі б я была на яе месцы, дык нічога аўтэнтычнага тут не пісала б, бо ж кожны можа праверыць факты і нешта аўтарцы закінуць. Калісь нам гаварылі, што гэта быццам гісторыя. Але тут нашай гісторыі няма; ну, можа крышку. Але нават тыя прысутныя ў кніжцы апісанні прыроды не супадаюць з нашай рэальнасцю.

**— Сам факт расправы з вёскай ёсць…**

— Сам гэты факт, але ўсё іншае не надта. Калі наша сям'я ў 1955 годзе перабралася з калёніі ў вёску, я той час выдатна памятаю. І я помню тую жанчыну, аўтарку; я помню яе прычоску, твар, яе цёмна-сіні жакет. Тады я ў школу не хадзіла. А як пайшла ў школу, то тая кніга ўжо была, хаця выдадзена яна была пазней, у 1969 годзе. Ну, чытала я пра таго хлопца і шкада яго было, бо ён тую дзяўчыну любіў, а яна яго не хацела. І яна згінула. А гэта ўжо факт: у час расправы згінула маладая мясцовая дзяўчына, яна хіба нават Олькай і называлася. І мела яна хлопца, недзе з-за Бельска, з Пілік або Грабаўца. Два гады таму з'явіўся таго ейнага хлопца сын, якому бацька расказаў сваю тую гісторыю. І сын прыехаў у Райск шукаць яе слядоў — меў ён яе здымак! Бацька, відаць, захоўваў здымак свае любімае ўсё жыццё; цяпер той здымак у нашай Ізбе памяці. Той сын распытваў у нас, ці хто пазнае, ці то яна, тая бацькава ранняя любоў. Гэта незвычайная гісторыя, што пасля сямідзесяці гадоў дзіця шукае каханай бацькам асобы. Калі б мне прыйшлося загінуць, а хтось любіў мяне да такой ступені, што нават ягонае дзіця шукала б мяне — гэта нешта незвычайна прыгожае. Тут па-суседску жыла тае Олькі цётка — бацькава сястра. Але што ж, калі яна з 1941 года нараджэння, то што ж яна магла з таго часу помніць. Ды не было ўжо тут такіх асоб, якія помнілі б тую дзяўчыну. Яе, здаецца, не адкапалі, як напісана ў кніжцы. Праўда, адкапалі дзве ці тры іншыя асобы.

Кніжка чытаецца добра. Калісь, калі я яшчэ была малой і тую кніжку чытала, дык думала, што там аўтэнтычныя факты. І гэтую кнігу я шукала ў 2004 годзе. Тады акурат з'явіліся праграмы развіцця вёскі і мы хадайнічалі за дафінансаванне на рамонт нашай святліцы. І да таго праекта была нам патрэбная гісторыя. Я шукала гэтую кніжку, але ніхто яе не меў; і добра, што не знайшла, бо вельмі расчаравалася б.

**— Што Вы больш канкрэтна помніце з прабывання тут Мар'і Шулецкай?**

— Хата, у якой яна жыла, стаіць яшчэ, але ў ёй ужо ніхто не жыве. Тую жанчыну, у якой жыла Шулецка, Вікторыю Матэнька, мы называлі Косткавай, па мужу. Яна сама была са Стацэвіч, каталічка, усе ейныя дзеці былі хрышчаны ў касцёле. Дзяцей тых было шмат: Юзік, Стах, Антось, Томэк, Ганка, Яня і Ядзя — сямёра.

**— А таго Костка застрэлілі разам з іншымі раенскімі мужчынамі?**



Ірэна ЦІШУК

— Так, яго застрэлілі, а Вікторыя асталася з сямёркай дзяцей. Я не помню Ядзі: гаварылі, што ёй было мо з дванаццаць гадоў, калі яна пакаўзнулася на ільдзе, упала, нешчаслівà ўдарылася галавою і памерла. А апошніх усіх знала; найстарэйшы Юзік жыве ў Дэнісках. Стах і Антось — блізнюкі — абодва памерлі ўжо. Ганка мусі ва Влацлаўку а Яня ў Бельску жыве. А пра Шулецкую я ўсё думала, што гэта настаўніца. А я часта бывала ў іхняй хаце, бо Антось, хаця быў самавукам, многа чытаў. І ў яго былі заўсёды штотыднёвікі польскі „Kraj Rad" і савецкі „Огонёк". Я чытаць яшчэ не ўмела, але любіла паглядзець на каляровыя ілюстрацыі. Часам нават Антось даваў мне тыя журналы дадому. І я радавалася, што Шулецкая будзе маёй настаўніцай і будзе мне добра ў школу хадзіць. А што яна па сутнасці рабіла — не ведаю. Магчыма, што яна хадзіла па суседніх вёсках, збірала матэрыялы. Але ў поле, памагаць, здаецца не выходзіла.

**— У Райску пры санацыі людзі былі збунтаваліся супраць падаткаў; было гэта ў 1934 годзе. Былі, як згадваюць гісторыкі, два лідары таго бунту: Фёдар Савіцкі і Ян Астроўскі — засудзілі ім пасля па дзесяць гадоў турмы кожнаму. Ці каторы з іх мог быць прататыпам мясцовага актывіста Лявона Мароза з кнігі Шулецкай?**

— Гэта не былі раенскія людзі, яны былі звонку.

**— Савіцкі пэўна з Праневіч быў…**

— Пра Савіцкага я не ведаю, але Астроўскі то хіба з Плюціч быў.

**— Вы сказалі, што Ваша сям'я ў 1955 годзе перабралася з калёніі ў вёску, а да таго часу, у 1949 годзе ў Райску быў арганізаваны калгас. А Ваша сям'я мела многа зямлі. Ці раскулачвалі вашых?**

— Як тата вярнуўся ў 1946 годзе са ссылкі, то ён не меў права абрабляць тую зямлю, абраблялі яе іншыя людзі. У наш калгас не прымушалі ўступаць, бо аднаасобнікі асталіся і яны абраблялі сваю зямлю; іхняй зямлі ніхто не чапаў. Калгаснікі абміналі іхнія палі. А скажу я шчыра, што людзі, якія ўступілі ў калгас — сталі жыць, тады чалавека цанілі! Тут, дзе цяпер стаіць наша царква, то з таго Гарадка папрыносілі матэрыял і паставілі такі, як мы называлі, барак. Ён быў падзелены надвое. У паўночнай частцы была царква, да 1963 года, пакуль гэтай не прывезлі з Патурына. З другога боку была спярша школа, да 1952 года, калі паставілі ў нас асобны школьны будынак. А пасля там была святліца. І як існаваў той калгас, то там спраўлялі дажынкі, на якія запрашалі ўсіх, і старых, і малых; усе гулялі на тых дажынках. Калгас меў усё сваё, бо ж трымалі і свіней, і кароў, і коней, і авечак — усё было. Былі свае пчолы, быў свой млын, была свая часальня воўны — уся нармальная гаспадарка дзейнічала. Я сама гэта помню, бо калі ішлі бацькі да працы, то і я, бывала, за імі швэндалася.



Выхад раян на Вадохрышча перад трагедыяй 1942 года



Царква ў Райску пасля 16.06.42 г.

**— То і Вашы бацькі былі ў калгасе?**

— Уступілі. Бо як яны жылі на калёніі, то, вядома, мала чаго мелі — адна кароўка, адзін конік. Прыходзілі знаёмыя і раілі тату: Ідзі, Колька, у калхоз, бо што ж ты адною кабылкаю наробіш на тых сваіх аблагах. Не будзеш на калёніі сядзець, зарobіш грошы, купіш у вёсцы агарод. І так было. Тата з мамаю хадзілі ў калгас, у вёску, тры кіламетры было, а пасля купілі пляц у вёсцы, паставілі хату. А як калгас распускалі, было гэта навесну, то, вядома — хто даў каня, і той конь быў яшчэ, то таго каня забіраў, хто даў карову — забіраў. Хто даў больш, а не было ўжо, то давалі грашовую кампенсацыю. Аддавалі плугі, бароны, усё аддавалі. І як усе везлі сваё, то я таксама нейкае жалеза валакла дадому. Мяне спыталі, навошта я тое жалеза прыцягнула, а я адказала, што калі ўсе бралі, то і я таксама. Набрала ў кішэні кармавога гароху (peluszka) і прынесла таксама дахаты. Думала, што гэта нешта добрае, але ён нясмачны.

**— А разыходзіліся ў згодзе?**

— Так, у згодзе. тадышні кнігавод гаварыў нам, што наш калгас быў у выдатнай фінансавай сітуацыі, даўгоў не было і астаўся ў банку актыў.

**— Калі так добра было, то чаму людзі разышліся?**

— Я так часта задумоўвалася — чаму? Калгасы ж мала дзе ператрывалі. Асталіся толькі бадай Дыдулі і Крывая, але ўсе навакольныя разышліся.

**— У газеце з 1952 года было, што ў Райску не ўсе былі задаволены падлікам працадзён, што іх налічвалі паводле затрачанага часу, а не выкананай работы.**

— А гэта агульная праўда, што людзі парознаму ставяцца да працы — так бывала тады, так і цяпер бывае.

**— А яшчэ вярнуся да згаданае раней Олі; Вы сказалі, што ў святліцы ёсць ейны партрэт. Хто зараз гаспадарыць у вашай вясковай святліцы?**

— Ёсць дзве жанчыны, яны апякуюцца святліцай на грамадскіх пачатках.

**— Раенская святліца была пабудавана ў 1977 годзе. Ці Вы помніце, як яе будавалі?**

— Будынак у Беластоку мы атрымалі ад тадышніх улад бясплатна. Разбіраць той жылы будынак ездзілі самі вяскоўцы. Тут паставілі будынак меншы, чым быў у Беластоку, а ўсё, што было лішняе, прадавалі. Вось і нашай хаце дзверы з ганка ў сенцы былі купленыя ад таго будынка. Каму былі патрэбны вокны, каму цэгла, каму кафля — куплялі. Пабудаваць жа самую святліцу трэба было згадзіць брыгаду работнікаў. Ды купіць некаторыя матэрыялы, напрыклад цэмент. То збіралі па вёсцы тады па пяцьсот злотаў ад хаты; праўда — не ўсе далі. Брыгада цесляроў была з Плюціч, а іншыя работы выконвалі нашы вяскоўцы. Асабліва многа папрацавала моладзь, бо тады ў Райску было вельмі многа моладзі, як я помню, то тады ў нас было семдзесят чацвёра дзяўчат і хлопцаў. Тады ладзілі платныя забавы, даход з якіх аддавалі на пабудову святліцы. Шмат грошай на нашу святліцу ўнесла і прадпрыемства „Рух", якое пасля наладзіла ў святліцы гандлёвы пункт.

(працяг будзе)

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Целушэцкія крашанкі



У Целушках на адным з панадворкаў вялікая чарада рабенькіх курэй, пасярод іх некалькі вельмі прыгожых пеўняў, якіх прабую зняць сваім фотаапаратам.

— А вы што, курэй будзеце здымаць? — зяйздросцяць вясковыя жанчыны, мабыць, „у вас не ўсе ў хаце”.

Тым часам куры асцярожна падыходзяць да фотаапарата. Першым крочыць певень, які зараз жа пачынае свой канцэрт. Курэй і пеўневых спеваў паяўляецца штораз больш. Адзін перад другім выпінаюць свае грудзі, узлахмачваюць пер'е, лапочуць крыламі. Любяць, калі іх заўважаюць і цэняць. У давелікодным перыядзе цэняць іх, мабыць, асабліва. Калісь на Вялікдзень у вёсцы з'ядалі сапраўды шмат яек. Збіралі іх у карзінкі цягам цэлага Вялікага посту. Свянціць насілі яйкі белыя, аблупленыя, дзецям давалі каляровыя і ўзорыстыя.

— Засвяцяць васкавую свечку, — кажа 86-гадовая **Надзея Андраюк** з Целушок, — па яйку гэтым воскам іголкай кап, кап, кап, тады кінуць у фарбу, што плахты фарбаваць, а найчасцей у цыбульнік. Яны становяцца рабенькія, а там, дзе воск — беленькія. Малявалі розныя кветкі і „Хрыстос Воскрэсе” пісалі. Усе так рабілі. Калісь дзяцей было шмат, а кожны стараўся панесці як найлепшае „волочэбно”.

У адрозненні ад вёсак Гродзеншчыны, тут дзецям не дазвалялі ісці да сваіх хросных бацькоў і прасіць у іх валачобнага. Трэба было яго чакаць у хаце. Хросныя бацькі ў аснуўным прыносілі хроснікам яйкі, але траплялся і цукеркі. Гэтымі яйкамі целушэцкія дзеці гулялі ў каток.

— З горкі яйкі спускалі, па некалькі на раз. Каторае паб'ецца па дарозе, трэба аддаць таму, чыё яйка яго пабіла. Бывала, наб'юць тых яец, што не з'есці.

З яйкамі рабілі таксама святочныя „паскі”. Туды ўкідалі яшчэ назапашаную муку, малако, дрожджы і масла. Цэлую печ запікалі гэтым дабром.

— Ой, пахуча тая паска была, — успамінае спадарыня Надзея.

За асвячэнне яек, сыру, мяса, паскі і куска хлеба, якое ў Вялікую суботу адбывалася ў чатырох месцах вёскі, кожны даваў бацюшку па дзве пары сырых яек.

— Дзве пары гэта чатыры яйкі, — тлумачыць спадарыня Надзея.

Толькі навошта бацюшку столькі яек? Мабыць, прадаваў іх са скідкай заблудаўскім жыдам.

У царкву ў Пухлах на ўсяночную хадзілі пяшком і ўжо без яек. Ішлі ўсе, уключна з дзяцьмі, якія толькі што сталі на ногі.

— Калісь не было ні галёшаў, ні чобатаў. Абувалі чаравікі з рэменя, якія прадавалі сапожнікі з Нарвы.

*— А ў што апраналіся?*

— Якая ж гэта вопратка была, Госпадзі. Ці цяпер жа ж такое адзенне... Наткуць палатна з дабаўкай касторы — спецыяльных нітак з крамы, а яшчэ дакупяць нешта блiскучае, быццам шоўк. З такога рабенькага матэрыялу шылі плацці і касцюмчыкі. Але калісь ніхто не смяяўся і так на забаву адзяваліся.

Дзяцей і моладзі ў вёсцы было шмат. Кампанія спадарыні Надзеі налічвала 16 дзяўчат, з якіх сёння толькі дзве засталіся ў жывых. На провады хлопцы заўсёды палівалі дзяўчат вадой.

— Аблююць і пайшла мокрая. Мокрая, але задаволеная, бо калі аблілі, значыць, падабаецца. У аўторак Светлага тыдня жыхары Целушок ішлі на могілкі. Некаторыя бралі з сабой туды абед.

— Сядуць і ядуць. Сам бы сабе не браў, але калі ўжо госці з другога сяла прыходзяць, то трэба іх нечым пакарміць.

Бацькі спадарыні Надзеі ніколі не насілі ежы на могілкі.

— А чаго ж туды несці? Дома пад'ясі. Але заўсёды бралі з сабой пасвенчаныя яйкі. Аблупім тое яйка, парэжам на кусочкі і па ўсіх магілках пакладзем. На магілках пакідалі таксама свежа звараныя, крашаныя, неаблупленыя яйкі.

*— Гэтыя яйкі, мабыць, птушкі з'ядалі?*

— Не, калі бацюшка хадзіў па могілках, то забіраў іх сабе.

Неадлучнай часткай Вялікадня была вясковая забава. Яе арганізавалі на другі дзень, бо на першы, пакуль папрыходзяць з усяночнай, разгавеюцца, зараз трэба на вячэрню збірацца. Пасля вячэрні прымалі гасцей альбо да іх выязджалі. Велікодная забава адбывалася на драўлянай пляцоўцы. Танцавалі толькі незамужнія дзяўчаты і хлопцы. Усе астатнія прыходзілі толькі паглядзець. Перад вайной і зараз пасля вайны іграў целушэцкі гарманіст Валодзя Ісаюк. Валодзю забілі, калі пайшоў у паліцыю служыць. Казалі, што за дзяўчыну.

— Я любіла танцаваць, ой як любіла, — тужыць па мінулым спадарыня Надзея. — Да гуляння я здольнай была. Той, за якога выйшла замуж, зусім не танцаваў. Прыйдзе на забаву і сядзіць, ні разу не станцаваўшы. А я танцавала абы з кім, хлопцаў было поўна. На вёсцы гналі самагонку. Хлопцы зыдуцца, нап'юцца самагонкі і толькі тады ідуць на забаву. То той бярэ, то той возьме — пагуляў, пакінуў і пайшоў.

А ты, як тая курыца, ідзі, куды хочаш, там сядай.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# ФАЛАНСТЭР

арганізацыя праекты+клубы

# http://falanster.by

Рамантызм як мысленне больш характэрны для моладзі. Гэта натуральна — маладыя людзі не так даўно развіталіся з дзяцінствам і яго прыгожымі казкамі, а дарослае жыццё бачыцца ім перапоўненым магчымасцямі, якія толькі трэба ўмець выкарыстаць. Праўда, з апошнім — уменнем правільна скарыстацца магчымасцямі, у маладосці часцяком здараюцца праблемы, але гэта не значыць, што яны пакінуць спробы зрабіць свет лепшым, дзе ўсім будзе добра.

Верагодна, менавіта таму сярод часткі моладзі знаходзяць водгук ідэі рамантычнага, ці як яго яшчэ называюць, утапічнага сацыялізму. І іх не надта турбуе, што спробы рэалізаваць утопію на практыцы абярнуліся трагедыяй, і яны ўпарта вераць, што дабро можа існаваць без зла, як і зло без дабра.

Вось і ў Беларусі існуе маладзёжнае аб'яднанне, якое ўзяло сабе назву, якую ў XIX стагоддзі прыдумаў французскі ўтапіст Шарль Фур'е — „фаланстэр”. Фаланстэр — гэта палац асаблівага тыпу, які ёсць цэнтрам жыцця фалангі — самадастатковай камуны з 1600-1800 асоб, якія працуюць для ўзаемнай выгады.

Беларускі фаланстэр — гэта маладзёжнае аб'яднанне, якое жадае пазітыўных сацыяльна-эканамічных перамен, разбурэння грамадскіх стэрэатыпаў. Пра яго распавядаецца на сайце „Фаланстэр”, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://falanster.by**.

Нягледзячы на прагу да ўтопіі, трэба прызнаць, што тое-сёе маладым людзям — фалангістам удаецца. Так, напрыклад, згодна справаздачы за 2014 год, якая размешчана на старонцы „Навіны”, яны правялі Дзень адкрытых дадзеных, дзе распавядалася пра магчымасць выкарыстоўваць адкрытыя дадзеныя з інтэрнэту, выдалі брашуру „Дапаможнік раварыста”, вывучалі аўтарскае права з мэтай яго змянення, стараліся распрацаваць закон аб грамадска карыснай дзейнасці.

Дарэчы, на старонцы „Навіны” цікавы карыстальнік можа пазнаёміцца з сёлетняй дзейнасцю „Фаланстэра”. Прычым, трэба прызнаць, яна даволі актыўная. Якраз цяпер яны ўключыліся ў конкурс артыкулаў пра краіны цэнтральнай і ўсходняй Еўропы «Вікі Вясна», а таксама пашыраюць бясплатны **Wi-Fi**.

„Формы праектаў могуць быць рознымі. Сёння гэта развіццё экасістэмы свабодных ведаў, стварэнне дапаможніка раварыста, распрацоўка і ўкараненне прыладаў электроннага ўдзелу грамадства ў справах краіны і іншае”, — пішуць пра накірункі сваёй дзейнасці фалангісты на старонцы „Праекты+Клубы”. „Для актывіста праекты — гэта шанец адчуць розныя ролі: валанцёра, актывіста, каардынатара, сустваральніка — і стаць часткай агульнага справы Фаланстэра!” — заклікаюць яны.

Калі ж карыстальнік інтэрнэту захоча больш дэтальна пазнаёміцца з „Фаланстэрам”, то ён можа зрабіць гэта на старонцы „Арганізацыя”. Там, сярод іншага, месціцца выдатны расповед пра маладзёжнае аб'яднанне. „Нашымі праектамі мы хочам аб'яднаць людзей з агульнымі інтарэсамі, якія могуць дапамагчы ці паўплываць на юрыдычныя і грамадскія праблемы, якія мы падымаем у сваіх праектах. Мы сацыяльныя наватары. Наша задача — фармаванне новых формаў адносін і ўкараненне іх у нашым грамадстве”, — вось так рамантычна акрэсліваюць сваё прызначэнне сябры „Фаланстэра”.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Дата з Календара

Прайшоў пекла і выжыў

## 115 гадоў з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага



Знакаміты беларускі навуковец Гаўрыла Гарэцкі нарадзіўся 10 красавіка 1900 г. у вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павета ў сям'і Івана і Еўфрасінні Гарэцкіх. У нашай гісторыі ён вядомы як геолаг, географ, эканаміст, адзін з заснавальнікаў і акадэмік Беларускай акадэміі навук, дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. З яго сям'і выйшаў і вядомы беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі — старэйшы брат Гаўрылы.

У 1914 г. Гаўрыла Гарэцкі паступіў у Горы-Горацкую каморніцка-агранамічную вучэльню. У 1917-1919 гг. супрацоўнічаў з Беларускай секцыяй студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. У 1923 г. ажаніўся з Ларысай Парфяновіч. У 1924 г. скончыў Пятроўскую (Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў дацэнтам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, дырэктарам Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі.

Упершыню Гарэцкі быў арыштаваны чэкістамі ў верасні 1922 г. у Маскве, але праз месяц вызвалены. 24 ліпеня 1930 г. арыштаваны ДПУ БССР па справе так званай „Працоўнай сялянскай партыі”, неўзабаве пазбаўлены звання акадэміка. Паводле пастановы калегіі АДПУ 30 траўня 1931 г. як „кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі” асуджаны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Але ў чэрвені прысуд заменены на 10 гадоў савецкага канцлагера. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Карэла-Фінскай АССР. Вызвалены датэрмінова 5 кастрычніка 1934 г. Зноў арыштаваны ў кастрычніку 1937 г., праз тры месяцы вызвалены. У 1938 г. арыштаваны чарговы раз. 8 траўня 1938 г. асуджаны да расстрэлу. Больш за год прабыў у турме, але цудам застаўся жывым. Гаўрыла Гарэцкі — гэта чалавек, які прайшоў пекла савецкіх турмаў.

Пазней жыў у розных мясцінах Расеі, праводзіў інжынерна-геалагічныя даследаванні перад узвядзеннем гідратэхнічных збудаванняў: Цымлянская, Горкаўская, Ніжне-Камская ГЭС і іншыя.

Рэабілітаваны 22 красавіка 1958 г. ваенным трыбуналам. У 1969 г. разам з сям'ёй вярнуўся настала ў Менск. Меў двух сыноў. Адзін з іх — Радзім Гарэцкі — таксама выдатны вучоны і грамадскі дзеяч. Доўгачаканае спатканне з Бацькаўшчынай па-сапраўднаму акрыліла вучонага, надало яму новай творчай энергіі.

Гарэцкі быў адноўлены ў званні акадэміка. Многія гады працаваў загадчыкам аддзела (з 1977 г. лабараторыі) геалогіі і палеагеаграфіі антрапагену Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. Навуковыя даследаванні Гаўрылы Гарэцкага былі прысвечаны эканамічнай геаграфіі, геалогіі антрапагену і інжынернай геалогіі. Распрацаваў асновы палеапатамалогіі — навукі пра рэкі мінулага. Апублікаваў больш за 160 навуковых прац — па фальклоры, дэмаграфіі, эканоміцы сельскай і лясной гаспадаркі, археалогіі. Стварыў таксама невялікі расейска-беларускі слоўнік.

Памёр Гаўрыла Гарэцкі 20 лістапада 1988 г. у Менску. Пахаваны на сталічных Паўночных могілках. На магіле — помнік аўтарскай працы скульптара Валяр'яна Янушкевіча. У 2002 г. у „Беларускім кнігазборы” выйшаў том выбраных твораў Гаўрылы Гарэцкага. Апроч іншага там змешчана і частка эпісталярнай спадчыны навукоўца і беларускага грамадскага дзеяча.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Велікодны ўспамін

**Марыя Бішчук — самая старэйшая жыхарка Кузавы — сёлета адзначыла дзевяностагадовы юбілей. Вось як успамінае велікодны перыяд з часу сваёй маладосці:**

Наша вёска Ваўкаставец, з якой я выходжу (зараз у Рэспубліцы Беларусь), прыналежыла да прыхода ў Амельянцы. Апрача Амельянца і Ваўкастаўца ў састаў прыхода ўваходзілі яшчэ Бобінка, Сіпуркі, Свінное, Панасюкі і Пудвор'е. У царкву хадзілі мы пешшу, каля трох кіламетраў. На багаслужбу прыходзіла шмат вернікаў — старэйшых і моладзі. Дзяўчаты ішлі басанож, туфлі неслі ў руках. Шкадавалі абутку. У рачулцы абмывалі ногі і тады накладалі абутак. Наш бацька быў адданым царкве вернікам. Ведаў усе малітвы ды і дзетак іх вучыў. На працягу сямі тыдняў перад Вялікаднем прытрымліваліся суровых правіл Вялікага посту. У нашай сям'і, зрэшты верніка ва ўсёй вёсцы, не спажывалі мяса і прадуктаў жывёльнага паходжання такіх як тлушч, малако, масла, сыр. Варылі посныя стравы: боршч з грыбамі, спажывалі селядцы, бульбу з пражаным ільняным семем, а з зерня канопляў рыхтавалі муку, з якой рабілі посную смятану. У Вялікі чацвер удзяльнічалі ў чытанні Евангелля, а ў Вялікую пятніцу — у вынасе Плашчаніцы. У суботу ішлі на ўсяночную. Перад Уваскрэсеннем Гасподнім абавязкова падыходзілі да споведзі. Адны спавядаліся перад Вербніцай, іншыя перад Пасхай. Вернікі, прыйшоўшы ў царкву, ставалі на калені, гаварылі малітву, затым цалавалі ўсе іконы. Так было і пасля закончанай багаслужбы, калі выходзілі з храма.

Для пасвячэння пяклі з дражджавога цеста мазуркі, упрыгожаныя каляровымі дадаткамі, бабкі ды тварожнікі. Аржаны хлеб пяклі на дубовых лісцях. За імі на Казанскую хадзілі ў адлеглую Пагулянку, дзе рос дубовы лес. Сабранае лісце нанізвалі на ніткі і сушылі. Свянцоку свяцілі ў вёсцы ў вызначаным месцы. Прадукты для асвячэння прыносілі ў саламяных каробках. Клалі многа прадуктаў. Апрача пячэння, хлеба, солі ды хрэну абавязковымі былі свойскага вырабу каўбаска, кумпяк, грудзінка ды крашаныя яйкі. Гэтыя красілі ў адвары цыбульніку або аржанікавых пупышак.

У царкву падаваліся апоўначы. З Ваўкастаўца ў Амельянец дарога пралягала праз сасняк ды купіны ядлоўцу. Прыпамінаю, як аднойчы бацька адзінока выбраўся ў царкву і не ўзяў з сабою ліхтарыка. У поцемках заблудзіўся. Кружыў па знаёмых месцах, але на адпаведны напрамак не мог выйсці. Усхваляваны пачаў гаварыць малітву „Да воскреснет Бог”. Калі вымаўляў апошнія словы малітвы, неяк у поцемках распазнаў сваю дарогу. З таго часу і я пачала верыць у святыя словы.

З усяночнай вярталіся на світанні. Зразу сядалі да спажывання свянцонкі, затым лягалі адпачываць. Вялікдзень адзначалі тры дні, запрашалі да сябе суродзічаў і блізкіх суседзяў. Самі таксама хадзілі з рэвізітам на гасцінная застолле. Моладзь арганізавала забавы. Вечарыны адбываліся ў прыватных кватэрах.

Прытрымліваліся таксама звычаю абдароўвання валачобнікам. У нашай вёсцы была бабулька Мікалайчыха, якая прымала роды. На Вялікдзень абавязкова абдароўвала яна маладых крашанымі яйкамі. Абдараваныя забаўляліся ў розныя гульні з яйкамі. Забаўляліся ўсе, ад дзецюкоў да дарослых.

— Зараз занікаюць велікодныя традыцыі ды і мала хто прытрымліваецца суровых правіл Вялікага посту. Але так гэта бывае на свеце, — завяршае велікодны ўспамін дзевяностагадовая Марыя Бішчук.

Усё ж такі пакараемся цывілізацыйным перамянам. Ідзем з духам часу...

Запісаў Уладзімір СІДАРУК

8 ☞ працяг

# Не рыдай мяне маці

й Паўло тут у адзенні чыстым, светлым, здаецца — мы яго так і не хавалі!.. Званы р-а-з-л-і-в-а-ю-ц-ц-а, мноства народу паўсюды, наша і чужая тут мовы... Усе на зямлю падаюць, скланяюцца, не адважваюцца на Светлы Лік Хрыстовы глядзець-дзівіціся!.. Светласць бліскучая заліла ўсё Сваёй цеплынёй!..

Устань, мамуля, — чуе яна голас сына, — падыміся, не бойся, Гасподзь знае цябе, пытаў пра цябе... — І Марыя ўстала, паднялася, нясмела глянула: такой Яснасці, гэткага Сіяння яна ніколі не бачыла, такой Дабраты і Ласкі не адчувала!.. І яна зноў пахілілася да зямлі, а Голас Меладычны гаварыў ёй: — Мір табе, маці!.. Пра сына і Паўла не турбуйся, не тужы, не рыдай аб іх болей, жывыя яны — як бачыш! — і шчаслівыя, бо яны — са Мною! Увесь час!!! — Госпадзі, Цару мой Нябесны, Збаўца! Не адкінь Ты і мяне ад Ліку Святога Твайго! — хрысцілася Марыя.

Радаснай будзь, маці! — Хрыстос паклаў ёй рукі на галаву, пагладзіў па твары, усміхнуўся, пайшоў далей, а людзі расступаліся перад Ім, цалавалі рукі, адзежу Яго... Хрыстос благаслаўляў народ, гаварыў ім нешта, дзетак да грудзей прытуляў, а ўсе спявалі: Хрыстос Уваскрэсе!.. Яшчэ і яшчэ раз, адны канчалі, наступныя пачыналі хорам вялікім...

Пятрушанька і Паўло паднялі маці з каленяў, узялі за рукі і пайшлі за Госпадам... Сын расказваў пра сябе, Паўло пытаў пра самотнае жончына жыццё, пра суседзяў, ці пачалі ў царкве дабудову пры алтары, хто роспіс-фрэскі паложыць — свае, грэкі, украінцы?.. Усё сказала, не скардзілася ні на адзіноцтва, ні на хваробы. Яна шчасліва ўсміхалася і моцна сціскала іх рукі, баялася, што яны пакінуць зараз яе, бо ж гэта іншы, не яе свет... Сын абцалаваў руку маці, абняў і сказаў: — Пахрыстосуемся тройчы, мамуля, з табой і таткам! — і моцна-моцна пацалаваў яе!..

Марыя ўздрыгнула і — п-р-а-ч-н-у-л-а-с-я... Пералякаўшыся бачанага, яна баязліва аглянулася навокал, устала. Як дагэтуль — гарэла лампадка перад Іконай Спасавай ды малая начная лямпачка. Марыя ўгледзелася ў Ікону: т-о-й ж-а! Лік Ісусаў! Гасподзь глядзеў на яе таксама!..

Маці падышла да акна, там ужо гарэлі аганькі машын, і, зірнуўшы на гадзіннік — не чула калі і біў! — заспяшалася: пара! Адзяваючыся, яна дзіву давалася свайму сну: чаго б гэта такое? Спасіцель, сын, бацька побач Яго... Дзіў Святы! Але ён б-ы-ў!.. Дасюль Пятрушанька сніўся, падмогі прасіў, рукі працягваў; «я да яго — а ён чамусь адыходзіў, я зноў — а ён аддаляецца, адбягае нават, але ўсё ў той рубашцы белай, шаўковай — як і сёння быў, але ў вымытай, пагладжанай... А сёння ён, і Паўло мой, прычудзіліся, светлыя абодва, побач з Госпадам, і дапамогі болей не прасілі. Пятрушанька болей не ўцякаў, сам падышоў да мяне, рукі цалаваў — яшчэ чую! — гаварыў: — Мамуля, ты не рыдай — не плач болей, сыты я і ўбраны, глядзі — я ў тваёй кашулі; ты толькі маліся за нас, з таткам; на Светлую Службу пойдзеш, папрасі хор наш, няхай заспявае Ніна Драздова, Ніна Дубіцка, а за мяне — Валодзя Панкоўскі, наша ўмілаванае, пасхальнае: «Радуйтеся, людие, и веселитеся, Ангел седяй на камене гробнем, той нам благовести, рек: Хрыстос Воскресе из мертвых! Хрыстос Воскресе из мертвых! Спас мира, Спас мира, С-п-а-а-а-а-с мира!..»

Што за сон, Божанька мілы! А можа Ты, Спасе, мяне да Сябе хутка паклічаш, з Паўлом ды сынком спалучыш?.. Марыя выйшла на вуліцу. Дождж перастаў ісці, у паветры ціш і благавонне, пах зямліцы свежы, мяккі, травяны, бярозавы, сасновы...

На шашы-гасцінцы чутны галасы, стук конскіх капыт — дзе хто і тарантасам едзе, альхоўцы — пэўна — яны форс любяць, самаходы, гонды... У царкву! Насустрач з Пасхай! З Хрыстом! З Уваскрэсеннем!

Марыя САШКА

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. буйная драпежная марская рыба = 13 _ 6 _ 11 _ 8 _ 9 _;
2. горад у Грузіі, дзе нарадзіўся Іосіф Джугашвілі = 12 _ 7 _ 18 _ 17 _;
3. чыгуначная або трамвайная лінія = 1 _ 2 _ 21 _ 22 _;
4. маўклівы, пануры чалавек = 10 _ 20 _ 19 _;
5. удзельнік пазнавальнага падарожжа = 16 _ 15 _ 14 _ 5 _ 3 _ 4 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Ом, Крынкі, сук, Варшава, цар, наганяй, рыба, ціс, страсць, пудзіла, бязмен, рычаг.

Рашэнне: **На сваім яйцы курыца гразі не бачыць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# 12.04 — 18.04

**(22.03. — 20.04.)** 11-14.04. лагодна аформіш кожную справу, калі хтосьці меў да цябе прэтэнзію, адмовіцца ад абвінавачання. У апошні час ты быў у пастаянным бегу і ў досыць добрай форме, але ўсё ж схадзі да лекара, абследуйся. Баран народжаны 2-6.04. будзе лішне імпульсіўны і раздражнены. Працуй, не звяртай увагі на іншых, ключ тваіх поспехаў — трываласць і пасьлядоўнасць. Збірай грошы — неўзабаве прыдадуцца.

**(21.04. — 21.05.)** Паашчаджай, неўзабаве трэба будзе грошай на непрадбачаныя выдаткі. Ад 14.04. захаваеш халодную кроў, развяжаш кожную праблему і знакаміта дагаворышся. З 16.04. разгарацца працяглыя спрэчкі, а тыя хто за табою — сапраўдныя твае браты душы. Будзеш больш рухавы, дык пабегай, пашпацыруй. 12-16.04. нялёгкі час — выкарыстай яго на одум і новыя планы. З 17.04. асцярожна падыходзь да абяцанняў.

**(22.05. — 22.06.)** Будзе з цябе біць гейзер жарснасці, красы. Дзякуючы асабістай мілаце аформіш кожную справу. Можаш пазнаёміцца з кімсьці цікавым і хутка ўмацаваць сувязь, а пасля нават ладзіць супольныя планы. Але ж 14-18.04. могуць ускладніцца сямейныя справы; і можа не ўдацца пераканаць іншых да сваіх рацый.

**(23.06. — 23.07.)** Можаш разлічваць на іншых, людзі падтрымаюць цябе добрай парадай. А можаш разлічваць на падтрымку асаблівa 11-14.04. 17-19.04 адкрыюцца перад табою немалыя магчымасці на працы, пачнеш чарговы этап у сваёй кар'еры. Але зоркі асцерагаюць цябе перад гвалтоўнымі прыёмамі і рызыкоўнымі дзеяннямі.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш цвяроза глядзець на нават найцяжэйшыя сітуацыі, таму лёгка развяжаш усе канфлікты і высветліш непаразуменні. Ільвы, народжаныя 3-5.08., могуць разлічваць на паспяховы ход юрыдычных спраў, звязаных з сям'ёй і спадчынай. З 16.04. будзь вельмі асцярожным, з 17.04. добры час на падарожжы і планаванне будучыні, з 18.04. адвагай і смеласцю пераможаш ворагаў.

**(24.08. — 23.09.)** 14-18.04. не ўваходзь у канфлікты з блізкімі і не крытыкуй іх. З 17.04. хопіць табе ўявы, каб справіцца з найцяжэйшымі справамі; здабудзеш каштоўныя інфармацыі. Каб утрымаць добрую форму, больш варушыся. Моцна прыляж на працу, бо цяжка будзе адысці ад абавязкаў. У другой палове красавіка спадзявайся някеськіх грошай!

**(24.09. — 23.10.)** У пачуццях не бойся даверыць. Давярай таксама кіраўніцтву. На працы справішся з кожнай праблемай, але трэба будзе кагосьці паслухаць. Немалыя карысці будзеш мець ад супрацоўніцтва з маладзейшымі. Твая форма яшчэ ненайлепшая, адчакай. Але 13-17.04. не ўсё пойдзе як хочаш у пачуццях, магчымы застой, партнёр можа акаліцца мурам і да нічога яго не пераканаеш.

**(24.10. — 22.11.)** У сваёй пары можаш знайсці для вас супольную дзялянку, якая не толькі ўмацуе вашу лучнасць, але і прынясе палёгу ў вашу схатнелую сувязь. Сяроду сябро ўне старайся, каб тваё слова было апошнім, не спрачайся. На працы твае справы пойдуць уперад. Хаця не ўсе схочуць з табой ісці рука ў руку, удасца табе аформіць нейкую справу, якая вісіць над вамі пару тыдняў. Ад 17.04. не пераапічвай драбнечы і не ігнаруй важнага.

**(23.11. — 22.12.)** У пачуццях не страчвай цвярозасці! З дыскусій аб будучыні можа нічога не вынікне, але пачакай. Спадзявайся большай лаяльнасці ад знаёмых. Са здароўем пільнуйся, абмінай хворых. Будзеш стомлены, раздражнены; парасчульвайся над сабою! Паміж 16 і 20.04. можаш улезці ў спрэчку і падвергнешся крытыцы; не валкуй праблем, якія ўжо блізкія развязкі.

**(23.12. — 20.01.)** Слухай другога боку, дазволь яму на выбар. Ты яшчэ слабаваты, адпачывай, схадзі да лекара. 13-17.04. крызіс у пачуццях; не ацэньвай іншых залішне сурова. А 17.04. адкрыюцца перад табою дзверы кар'еры, будзе падтрымка ў інтарэсах.

**(21.01. — 19.02.)** 13-17.04. не слухай тых, хто стараецца падбухторыць цябе супраць кіраўніцтва; не падлівай алівы ў агонь! У сардэчных справах блізкасць, здзяйсненне, жарснасць. А крышынка дысцыпліны і кантролю ў фінансах прынясуць незвычайныя вынікі.

**(20.02. — 21.03.)** 11-14.04. хутка падгоніш хвасты і вызначыш новыя мэты, якія зрэалізуеш без найменшага высілку. Але не будзь «купаным у гарачай вадзе» — не зменяй рашуча планаў і рашэнняў. Хаця з 17.04. магчымая раптоўная змена планаў, ад цябе незалежная. І не накупляй усякай непатрэбшчыны.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Беласток 25 сакавіка 2015 г. серада кафэ Zmiana Klimatu

# Дзень Волі — свята шчаслівых беларусаў

25 сакавіка — свята вольных беларусаў. Так гэты дзень, паслядоўна з году ў год, называе дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк. Яго словы ідуць разам з практыкай — у гэты дзень ліцэісты звольненыя ад урокаў. Сёлета святочны час правялі пад бел-чырвона-белымі сцягамі, ладзячы моладзевыя турніры і беларускую дыктоўку.

Старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа ў сваю чаргу Дзень Волі называе святам годных беларусаў. Яго словы поўнасцю сугучныя беластоцкім святкаванням. Прысутнасць на святкаванні Свята Незалежнасці гэта не толькі патрыятычны абавязак, але і гонар.

З году ў год на свята збіраецца ўсё большая, шматпакаленневая грамада, прыязджаюць людзі з іншых гарадоў ды глыбінкі. У такія моманты як ніколіназіраецца адраджэнне беларускай нацыянальнай мяншыні — зразумела, на меру нашых магчымасцей. Самым відавочным прызнакам адраджэння з'яўляецца прысутнасць здзейсненых і шчаслівых людзей. Аказваецца, гэтая прыкмета найбольш важная для захавання нацыі. Наш славуты Тадэвуш Касцюшка, змагар за свабоду амерыканскага, польскага і беларускага народаў, паўтараў: „Каб народ меў волю на існаванне, каб жыў і развіваўся, ён павінен найперш быць шчаслівым!”.

Да такой менавіта катэгорыі людзей можна аднесці асобы ўзнагароджаныя сімвалічнымі бел-чырвона-белымі кветкамі: Іаанну Троц, Тамаша Ціханюка і Міколу Ваўранюка.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

* * *

**Мікола Ваўранюк** (на здымку справа) узнагароджаны за шматгадовую журналісцкую дакументацыю жыцця беларускай меншасці ў Польшчы і запіс у дакументальным кіно культурна-палітычнага жыцця Беларусі. Сімвалічную ўзнагароду Беларускага саюза ўспрыняў з радасцю і пэўнай нечаканасцю:

— У нашай грамадзе шмат людзей, якія штодзень працуюць самаахвярна, пачынаючы ад навучання, па элементарныя справы захавання беларускасці ў кожнай галіне жыцця. Тое, што я раблю — гэта мая прафесія. Тым больш, як былы супрацоўнік «Нівы» і журналіст Радыё Рацыя, я маю камфорт кантакту з беларусамі па абодвух баках мяжы. А як рэдактар праграмы „Беларускі тыдзень” на тэлебачанні, апрача штодзённай працы, дзе пот і слёзы, час ад часу здараецца нешта стварыць, «выскачыць вышэй за наш штодзённы лёс». Я рады, што чагосьці там навучыўся. Ці можна быць беларусам і быць шчаслівым? Так, гэта не аксюмаран, не аспрэчанне. На здзіў тым, якія думаюць, што наш адвечны лёс гэта плач і слёзы, бяда, прыгнёт і паншчына, а на канец яшчэ камунізм і лукашызм. Не! Можна быць беларусам і быць шчаслівым чалавекам. У маім выпадку рэцэпт на шчасце — гэта сям'я. Гэта тое, што выходжу з сялянскай сям'і, якая мела пачуццё свайго месца, свайго гонару, адчуванне эстэтыкі — гэта найчасцей праяўлялася ў песнях. Усё гэта грунтавала, будавала свядомасць, памкненні. Потым была школа, сябры і свая сям'я — усебаковая падтрымка жонкі, зразумене ў дзяцей. Сёння яны, дарослыя ўжо людзі, разумеюць нашую беларускасць як нашае наканаванне, наш лёс, адначасова не бачаць ніякай прычыны, каб быць ад таго нешчаслівым у свеце. Так, я — шчаслівы беларус! Сённяшняя ўзнагарода вельмі мяне ўзрушыла. Калісьці Сакрат Яновіч паўтараў: каб нечага дачакацца, заслужыцца — такога букету на 25 Сакавіка — трэба доўга жыць і працаваць. Ну, я ўжо жыву адносна доўга і даслужыўся ўжо першай узнагароды тут, на нашым панадворку.

* * *

**Тамаш Ціханюк** — дырэктар Беларускага музея ў Гайнаўцы ўзнагароджаны за тое, што нягледзячы на ўсякія цяжкасці, стараецца паказаць жыхарам Гайнаўшчыны розныя формы і аспекты мінулай і сучаснай беларускай культуры. За важны для падтрымкі нацыянальнай тоеснасці праект «І тут жывуць людзі».



■ Беластоцкія «Баламуткі»



Фота www.racyja.com

Тамаш Ціханюк, з «усякімі цяжкасцямі», што ў канкрэтнасці абазначаюць задоўжанасць музея, заўсёды нядахоп сродкаў на развіццё і мадэрнізацыю, адміранне і міграцыя беларусаў, спраўляецца пазітыўным думаннем пра жыццё.

— Цяжкасці яны і на тое, — сцвярджае са спакоем, — каб іх пераадольваць.

І дадае, што праблемы прымусілі яго шукаць іншых магчымасцей выхаду. Шанц для музея ўбачыў у пісанні праектаў і здабыванні грантаў. Дзеяннем, асабліва на мастацкім грунце, спрыяюць шматлікія кантакты з культурнымі асяродкамі і арганізацыямі. Не менш важная група людзей, якая нясе дапамогу, і падтрымка з боку жыхароў Гайнаўкі:

— Я заўсёды меў такую патрэбу, каб штосьці рабіць для людзей, — кажа Тамаш Ціханюк. — Можна сказаць, што ўсё пачалося ў дзевяностыя гады, калі я быў вучнем Гайнаўскага белліцэя. Тады ўжо заснаваў першы свой гурт і пачаў выступаць на „Басовішчы”. З той пары, можна сказаць, пачаў думаць, каб працаваць аніматарам культуры ў беларускім асяроддзі. Калі гаварыць пра тыя перашкоды, то ў мяне такая прырода, — прызнаецца спадар Тамаш, — што калі ёсць праблемы, тады большая ахвота да дзеяння. У такіх момантах хочацца яшчэ лепш, яшчэ больш, хочацца пашыраць прапанову. А шчасце? Я адчуваю сябе шчаслівым, калі людзі прыходзяць на нашы мерапрыемствы ў Беларускі музей. Гэта доказ, што варта рабіць нешта для асяроддзя.

Тамаш Ціханюк бачыць развіццё сваёй установы ў адкрыцці на ўсіх жыхароў рэгіёна. Не важна, хто яны па нацыянальнасці. Важна, каб беларуская культура была прываблівай для ўсіх, каб яна прыцягвала да беларуска-польскага супрацоўніцтва. Такое думанне ўдалося прывіць на грунце мастацкіх праектаў.

— Дзесяць гадоў таму мы прыдумалі новы лагатып — акно, якое сімвалізуе адкрытасць на розныя напрамкі дзейнасці і іншыя нацыі, — кажа Тамаш Ціханюк. — Каб не было так, што нехта нас баіцца, ці мае пра нас негатыўныя ўяўленні і погляды. Гэта відаць пры мастацкіх выстаўках. Многія гайнаўскія мастакі раней не заходзілі ў наш музей. А зараз яны не толькі прыходзяць, яны выстаўляюць у нас свае працы. За імі сталі прыходзіць жыхары горада, якія раней баяліся пераступіць парог музея. Ёсць так, што прыходзяць да нас палякі і хочуць вывучаць беларускую мову.

* * *

**Іаанна Троц** узнагароджаная за вяртанне ў беларускую прастору нашай меншасці тэатральнай пастаноўкі на высокім мастацкім узроўні. За пастаноўкі з маладымі людзьмі спектакляў на беларускай мове і яе падляшскіх дыялектах.

Гутарку пачынаем з апошняга спектакля «Бежанства».

— Я ведала, што ў 2015 годзе адзначаецца сотая гадавіна бежанства, — кажа Іаанна Троц, — падзеі, якая здарылася ў нашай гісторыі і якая будавала тоеснасць беларусаў. Ведала я таксама, што сама не зраблю спектакля пра бежанства. Аднак хацела пра бежанства сказаць у тэатры. Тады нарадзілася ў мяне думка, каб зрабіць пастаноўку з групай гайнаўскіх ліцэістаў. Яны ўжо дастаткова дарослыя, каб зразумець тэму. Мы пачалі працаваць ужо пад канец мая, прэм'ера адбылася ў снежні 2014 г. Ёсць зацікаўленне спектаклем, нас запрасілі выступіць у час сустрэч і канферэнцый, прысвечаных гэтай падзеі.

Папраўдзе Іаанна Троц ужо другі раз узнагароджаная бел-чырвона-белым букетам. Першы раз, калі была яшчэ ліцэісткай. Ужо тады яна была завадатаркай моладзевай тэатральнай групы «Бараццьба» (Беларускае — актыўнае — роўнае — аб'яднанне — цвёрдых — братоў — „анты”).

— Гэта быў такі першы крок, — успамінае з усмешкай Іаанна. — Гэты тэатр быў для нас вельмі важны. Зараз мне 28 гадоў. Я — дарослая, свядомая сваіх магчымасцей асоба. Мой тэатр — гэта мая праца. Сённяшняя ўзнагарода была нечаканай, і занадта на вырост. Таму, што я на пачатку сваёй дарогі, перада мной многа працы. Для мяне самая вялікая ўзнагарода, калі на спектакль прыходзяць людзі, жыва ўспрымаюць, калі маю працу лічаць важнай. Так, зараз мне найбольш патрэбная публіка.

Іаанна Троц на Свята Волі прыходзіць заўсёды. 25 Сакавіка ў яе роднай хаце было сямейным святам. Ці ўдзельніцтва ў святкаванні збудавала яе тоеснасць?

— Гэта была такая «вішня на торце». У будаванні тоеснасці найважнейшыя дні цяжкай працы, калі вучышся, працуеш, калі наша праца прыносіць плён. Для мяне важнае тое, што я засталася тут жыць, тут засноўваю сям'ю, тут працую. Іду гэтай дарогай свядома, буду тут будаваць тэатр і сваю дзейнасць.

У перыяд сакавіцкіх святкаванняў Іаанна Троц разам з бел-чырвона-белым букетам атрымала яшчэ падарунак ад лёсу — некалькі дзён пасля Дня Волі яна стала шчаслівай мамай. У беларускай сямейцы Іанны і Міхала Троцаў нарадзіўся другі сынок Лёнік. Словам: Жыве Беларусь!

**Ганна КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960